ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№8 (137) жнівень 2022 год

CATHOLICNEWS.BY

# VI Парафіяда дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі



Стар. 16

## “Няма большай любові”



Стар. 7



## Дыяцэзіяльныя дні моладзі прайшлі ў Браславе

Чытайце на Стар. 9



## Копіі цудадзейных абразоў Маці Божай у Празароках

Стар. 7



## Пра святара са стыгматамі

*чытайце на* Стар. 10



## “Избранные”. Когда Иисус приходит в мир сериала

Стар. 13

# *Апостальскі нунцый:* Папа Францішак усцяж плануе наведаць Ліван

**Былы Апостальскі нунцый у Ліване арцыбіскуп Джозэф Спітэры запэўніў, што Папа Францішак плануе наведаць краіну. Дата паездкі будзе абвешчаная, калі Святы Пасад палічыць яе "карысным для Лівана".**

Пра гэта іерарх з Мальты, нядаўна прызначаны нунцыем у Мексіцы, сказаў падчас свайго развітальнага візіту ў сядзібу Мараніцкай лігі.

Пантыфік павінен быў наведаць Ліван 12-13 чэрвеня. Дату абвясціў прэзідэнт краіны перад тым, як Святы Пасад афіцыйна паведаміў пра пілігрымку Пантыфіка, як таго патрабуе дыпламатычны пратакол. Аднак у пачатку мая ўлады ў Бейруце былі паінфармаваныя, што візіт адкладваецца, паколькі ў Папы праблемы з каленам. Новая дата паездкі пакуль не ўстаноўленая.

Папа Францішак неаднаразова заяўляў пра сваё жаданне паехаць у Ліван. Праз год пасля выбуху ў бейруцкім порце (4 жніўня 2021 года) падчас агульнай аўдыенцыі ён звярнуўся да народа краіны і ў прыватнасці да ахвяр, іх сем'яў і тых, хто страціў дамы і працу. Таксама 1 ліпеня 2021 годзе Папа арганізаваў у Ватыкане Дзень малітвы і рэфлексіі ў інтэнцыі міру і стабільнасці ў Ліване. У ім узялі ўдзел прадстаяцелі хрысціянскіх супольнасцей у гэтай блізкаўсходняй краіне.

Сёлета з 31 студзеня па 4 лютага ў Ліване з афіцыйным візітам знаходзіўся Сакратар па адносінах Святога Пасаду з дзяржавамі. Пасля сваёй паездкі арцыбіскуп Пол Рычард Галахер заявіў, што ў краіне не хапае "згоды адносна вырашэння праблем", паколькі кожны глядзіць на сітуацыю з уласнай перспектывы. Іерарх запэўніў, што Апостальская Сталіца гатовая садзейнічаць нацыянальнаму дыялогу ў Ліване пры ўмове, што пра гэта папросяць усе бакі.

Трэба нагадаць, што Ліван наведвалі папярэднікі Францішка: Ян Павел II знаходзіўся тут у 1997 годзе, а Бэнэдыкт XVI – у 2012 годзе.


Папа Францішак з ліванскімі іерархамі падчас Малітвы ў інтэнцыі міру і стабільнасці ў Ліване. 01.07.2021


Нур-Султан

# Пантыфік паедзе ў Казахстан: афіцыйная інфармацыя Святога Пасаду

**Восенню Папа Францішак плануе адправіцца ў Казахстан. Такую інфармацыю распаўсюдзіла 1 жніўня Зала Друку Святога Пасаду.**

"Прымаючы запрашэнне грамадзянскіх і касцельных уладаў, Папа Францішак здзейсніць абвешчанае Апостальскае падарожжа ў Казахстан з 13 па 15 верасня 2022 года, наведае горад Нур-Султан з нагоды VII З'езда Лідараў сусветных і традыцыйных рэлігій", – гаворыцца ў афіцыйнай заяве.

Раней пра рашэнне Папы прыняць удзел у мерапрыемстве заяўляла казахстанскае кіраўніцтва.

У 1998 годзе Казахстан як першая краіна Цэнтральнай Азіі падпісаў Пагадненне аб узаемных адносінах са Святым Пасадам, а ў 2001 годзе краіну наведаў Пантыфік – Ян Павел II.

*По матэрыялах старонкі беларускай рэдакцыі Vatican News*

# Святы Айцец асвяціў карону для абраза Маці Божай у катэдральным касцёле Адэсы



**Абраз Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, які знаходзіцца ў галоўным алтары Адэскага катэдральнага касцёла, да канца жніўня будзе каранаваны папскай каронай, асвечанай Папам Францішкам 3 жніўня. Гэты абраз лічыцца цудатворным і вельмі добра вядомы гараджанам.**

Былі сабраныя ўсе звесткі пра гэты абраз, пасля чаго дадзеныя накіравалі ў кангрэгацыю Ватыкана. Там пасля адпаведнага даследавання прызналі, што абраз можа быць каранаваны. Гэта вызначана спецыяльным указам.

Пасля атрымання дэкрэта прадстаўнікі Адэскай катэдры – канцлер курыі кс. Кшыштаф Вітвіцкі і кс. Даніэль Кулакоўскі – накіраваліся на сустрэчу са Святым Айцом. Падчас сустрэчы, якая адбылася на заканчэнне агульнай аўдыенцыі 3 жніўня, Пантыфік асвяціў карону.

15 жніўня, калі будзе адбывацца парафіяльны адпуст, Апостальскі нунцый ва Украіне арцыбіскуп Вісвальдас Кульбокас здзейсніць абрад каранацыі абраза. Побач з абразом будуць размешчаныя дары, прынесеныя ўдзячнымі вернікамі.

Біскуп Станіслаў Шыракарадзюк адзначыў, што абраз сапраўды мае дзіўную гісторыю. Пасля закрыцця і разрабавання касцёла яго ўдалося выратаваць. Некаторы час ён быў схаваны ў адэскім касцёле св. Пятра. Як толькі ўдалося аднавіць святыню, абраз вярнулі ў катэдру.

*Па матэрыялах rkc.org.ua*
*пераклад* ***Марыны Ткач***



# "Твой Розарий для Украины": инициатива по сбору чёток на молодёжном фестивале

**"Твой Розарий для Украины": так называется инициатива по сбору чёток на 33-м фестивале Mladifest, который прошёл с 1 по 6 августа в Меджугорье с участием молодых людей из более чем 70 стран.**

О благотворительном начинании рассказал монсеньор Ян Собило, вспомогательный епископ Харьковско-Запорожской епархии, поделившись свидетельством во второй день молитвенной встречи в Меджугорье:

"Солдаты, с которыми я часто общаюсь в последнее время, – отметил иерарх, – говорят, что в самые страшные моменты, когда люди теряют надежду, помощь приходит с небес. Они понимают, что молитва, пост и материнский покров Непорочной Девы, распростёртый над ними, хранит от ран и смерти. <…>

Чётки, по сути, очень похожи на пращу Давида и на пять камней, которые он держал в своей сумке и использовал для победы над Голиафом. Те, кто научился молиться на чётках Святого Розария в Меджугорье, учат этому и других", – отметил украинский прелат, попросив молодых участников международной встречи подарить чётки "тем жителям Украины, которые хотели бы их иметь, но не имеют".

По словам католического епископа, Святой Розарий – это величайшее оружие против зла. "Ваши чётки будут отправлены в Украину, в руки тех, кто ждёт их, кто испытывает страх и теряет надежду. Чётки придадут им уверенности в том, что Пресвятая Матерь защищает их", – сказал вспомогательный епископ Харьковско-Запорожской епархии.

По окончании молодёжного фестиваля собранные чётки будут привезены в страдающую от войны страну, о которой Папа Франциск просил не забывать в молитвах.

***Виктор Владимиров,***
*русская редакция Vatican News*

# Беларуская мова ў Касцёле ў пачатку XX стагоддзя

**У мінулым нумары "Каталіцкага Весніка" мы распавялі пра тое, як у 1917 годзе дзякуючы біскупу Эдварду Ропу і беларускім святарам у касцёлах Дзісенскага павета вернікі ўпершыню пачулі казанні на роднай мове. Сёння мы распавядзём працяг гэтай гісторыі.**

■ **Кастусь Шыталь**, *краязнаўца*

Перыяд 1915-1920 гадоў быў вельмі цяжкі для рэгіёна і яго насельніцтва. Тут некалькі разоў мяняліся ўлады і праходзілі розныя войскі. 7 лістапада 1917 года да ўлады ў Петраградзе прыйшлі бальшавікі, яны ж сталі пераймаць уладу на месцах. Але тая іх улада пратрымалася нядоўга. У лютым 1918 года войскі Нямеччыны і Аўстра-Венгрыі пачалі наступленне на ўсход, не сустрэўшы супраціву з боку бальшавікоў. 3 лютага 1918 года бальшавікі падпісалі з немцамі Брэсцкую мірную дамову, паводле якой большая частка Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй. У гэтых зменлівых умовах каталіцкія святары заставаліся са сваімі парафіянамі і працягвалі душпастырскую і дабрачынную працу.

Ксяндзы-беларусы прапаведавалі па-беларуску Божае слова і вялі грамадскую дзейнасць у гуртках "хрысціянскай дэмакратыі". Найбольш горача за беларускую справу ўзяўся кс. Віктар Шутовіч, які з лета 1917 года быў пробашчам у вясковай парафіі Барадзенічы. Палякаў у парафіі было мала: нешматлікія сем'і шляхты. Сяляне былі беларусамі. Кс. Шутовіч палічыў за лепшае ўвесці ў касцёле беларускія казанні, малітвы і спевы штонядзелі, а польскія казанні пакінуў толькі на большыя святы. Ён жыў вельмі сціпла, але пры гэтым стараўся дапамагаць парафіянам. Калі бальшавіцкія салдаты неяк зайшлі да яго на плябанію, спадзеючыся нечым там пажывіцца, то нічога каштоўнага не знайшлі, а выйшаўшы, казалі парафіянам: "Как же удивительно беден ваш поп".

Восенню 1917 года кс. Віктар Шутовіч заснаваў у Барадзенічах школу. У той час, калі часта мяняліся ўлады, духавенства нярэдка брала на сябе адказнасць за адукацыю дзяцей, бо свецкім уладам было не да таго або яны не мелі магчымасці займацца школамі. Настаўніцамі ў Барадзенічах працавалі Вераніка Шутавічанка, пляменніца пробашча, і Гэлена і Ядвіга Еднашэўскія, якія часова жылі ў сваякоў у маёнтку Мілекі. Усе яны з'яўляліся кваліфікаванымі педагогамі. Вераніка Шутавічанка выкладала па-беларуску, у тым ліку вяла ўрокі беларускай мовы. Сёстры Еднашэўскія выкладалі па-польску. Кс. Віктар Шутовіч выкладаў у школе Закон Божы, праводзячы заняткі па-беларуску. Праваслаўным дзецям Закон Божы выкладаў айцец Рафаловіч з Ёдаў.

У Барадзеніцкай парафіі была беларуская школа ў вёсцы Сабалеўшчына. Пра яе ўспаміналі мясцовыя жыхары і праз дваццаць гадоў: *"У 1917 годзе ў нас была беларуская школа. Першую нашу беларускую вучыцельку мы дужа і цяпер любім, яе ўспамінаючы. Мы ўсё помнім і цяпер гаворым пра гэныя нашы беларускія часы. Як у нас тады беларускую ёлку строілі, беларускія песьні пялі, "Беларускую Дудку" чыталі і вершы дэклямавалі".* Захаваліся згадкі пра школы, якія ў тыя гады засноўвалі ў сваіх парафіях ксяндзы-беларусы Міхал Буклярэвіч у Іказні і Міхал Пятроўскі ў Шаркаўшчыне. Аднак не захавалася інфармацыі пра тое, як і на якой мове там была арганізавана праца.

У пачатку 1918 года, скончыўшы навучанне ў духоўнай акадэміі ў Петраградзе, прыехаў у Барадзенічы кс. Адам Станкевіч. Не маючы сваёй парафіі, ён правёў вясну і лета, дапамагаючы кс.


Кс. Віктар Шутовіч


Кс. Міхал Пятроўскі


Кс. Міхал Буклярэвіч

Шутовічу на парафіі, а таксама ездзячы па фэстах з казаннямі. Нямецкая вайсковая адміністрацыя, якая кантралявала Дзісеншчыну, не замінала гэтай дзейнасці. За лета 1918 года кс. Станкевіч паспеў прамовіць казанні на роднай мове вернікаў у Замошшы, Далёкім, Новым Пагосце, Германавічах, Шаркаўшчыне, Мёрах, Іказні, Ёдах ды – некалькі разоў – у саміх Барадзенічах.

У Шаркаўшчыне пасаду пробашча займаў з 1917 года кс. Міхал Пятроўскі. Ён актыўна прапаведаваў па-беларуску падчас візітацыі біскупа Ропа і працягнуў сваю дзейнасць у наступныя гады. Кс. Пятроўскі актыўна ўжываў у касцёле беларускую мову, а таксама быў кіраўніком хрысціянска-грамадскай дзейнасці (гэтак званай "хрысціянскай дэмакратыі") у Дзісенскім павеце. Гурткі "хрысціянскай дэмакратыі" існавалі ў той час у Шаркаўшчыне, Іказні, Друі, Дзісне, Барадзенічах, Германавічах. Пры гуртку ў Германавічах дзейнічала бібліятэка.

6 жніўня 1918 года ў Германавічах адбываўся фэст з нагоды свята Перамянення Пана. Гэтую нагоду скарысталі святары Дзісенскага дэканата, каб сабрацца на з'езд і абмеркаваць кірункі душпастырскай і грамадскай працы. На з'ездзе была прынятая рэзалюцыя, аўтарам якой стаў кс. Міхал Пятроўскі. *"Што датыча дзейнасці грамадскай, уважаем, што дзе няма народнай сведамасці, там няма культуры. Пастанова: З'езд ксяндзоў дзісненскага дэканата выказваецца, што абшар дзейнасці Каталіцкай Дэмакратыі ў Дэканаце ёсць беларускі",* – гаварылася ў рэзалюцыі. Некаторая ўвага ў дакуменце была прысвечаная і школьніцтву: *"У дзісненскім дэканаце з прынцыпу мусяць быць школы беларускія з мовай навучання беларускай, пры поўнай аўтаноміі для іншых народнасцяў". "У нас блізу ўвесь павет ужо па крысе чуў аб Беларусі і сьвятлейшыя, разьбітнейшыя сяляне добра ведаюць, што яны Беларусы,* – пісаў у снежні 1919 года карэспандэнт з Шаркаўшчыны ў віленскай газеце "Krynica". *– Ня зьгінула дарма праца Ксяндза Ад. Станкевіча, які ў летку 1917 году, у большай часьці павету гаварыў па Касьцёлах беларускія навукі. На гэтыя казаньні ішлі людзы здалёку, часта аж за 20, 30 вёрст, абы толькі пачуць Божае Слова ў сваей роднай мове.*

*А хто-ж ацэніць працу дзеля дабра душы і цела Бел. Ксянд. М. Пятроўскага, да недаўняга часу Шаркаўскага пробашча? Ён беларускімі навукамі ў Касьцелі, беларускімі школамі, беларускай Хрысьціянскай дэмократыяй, сваей грамадзянскай працай, засеяў у душы нашага Беларуса зярно, з якога цяпер вырастае прыгожая краска. Таксама дужа многа працуюць на роднай ніве і ў суседніх парахвіях. Кс. В. Шутовіч у Барадзенічах, Кс. Др. Й. Бобіч у Ідолці і іншыя. Знача, мы Беларусы жывём і жыць будзім".*

Тым часам Дзісеншчыну чакала новая змена ўлады. Пасля таго, як 9 лістапада 1918 года імператар Вільгельм II адрокся ад трона, нямецкае войска стала адыходзіць з акупаваных тэрыторый на ўсходзе. Дзісненскі павет занялі бальшавікі, а на чале мясцовай улады сталі малаграматныя людзі з нізкімі маральнымі якасцямі. У красавіку 1919 года ў Дзісне расстралялі праваслаўнага святара з Шаркаўшчыны а. Канстанціна Жданава, а настаяцель з Язна а. Аляксей Сакалоў змог уцячы з месца расстрэлу. Католікам бальшавікі забаранілі званіць у званы і праводзіць працэсіі. У чэрвені 1919 года ў павеце сталі выбухаць узброеныя сутычкі, якія перараслі ў антыбальшавіцкае паўстанне. Разграміўшы паўстанне, бальшавікі расстралялі пробашча з Іказні кс. Міхала Буклярэвіча. *"Ён, як верны слуга Хрыстуса, быў шчыра аддаьны працы дзеля духовага і матэрыяльнага дабра нашага сялянства: закладаў хаўрусныя крамы, адчыняў пачатковыя школы, прытулкі, сьмела гаварыў сваім парахвіянам, што яны не Палякі і не Расейцы, а Беларусы, помніў аб бедных і пакрыўджаных, быў паважным заступнікам слабых прад сільнымі гэтага сьвету,* – пісала ў верасні 1919 года "Krynica". *– Відзячы зьдзек бальшавікоў над бедным Беларусам, яго добрая душа больш цярпець ужо не магла – нябожчык сьмела і адкрыта выступіў проціў крывавых катаў".* 27 чэрвеня 1919 года бальшавіцкія салдаты расстралялі кс. Буклярэвіча і яго сястру Эмілію (на помніку, адноўленым у 90-я гады, памылкова напісана Аліцыя) каля станцыі Бігосава. У 1920 годзе іх перапахавалі каля касцёла ў Іказні.

Цікавай старонкай у рэлігійнай гісторыі рэгіёна з'яўляецца служэнне ў Новым Пагосце айца Дыядора Колпінскага. Ён спачатку быў праваслаўным святаром, але ў 1915 годзе перайшоў у каталіцтва і служыў набажэнствы ў візантыйскім абрадзе, як у часы Уніі. У Новым Пагосце была старая драўляная царква, і ў 1919-1920 гадах там служыў згаданы святар. Гэта была першая спроба адраджэння Уніі на Дзісеншчыне.

У жніўні 1919 года Дзісненскі павет занялі польскія войскі. Польская ўлада агулам прыхільна ставілася да рэлігіі, асабліва да каталіцкай канфесіі. Аднак палякі глядзелі на наш край як на свае "Усходнія Крэсы". Рост беларускай нацыянальнай свядомасці, якому дапамагала дзейнасць беларускіх святароў, не ўваходзіў у іх планы. Але пра гэта мы раскажам у наступнай публікацыі.


**Касцёл Перамянення Пана ў Германавічах.**
*20-я гады XX стагоддзя*


**Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне,.**
*Фота 1934 года*


**Царква ў Новым Пагосце, у якой у 1919-1920 гадах вёў грэка-каталіцкія набажэнствы а. Дыядор Колпінскі.**

# З успамінаў ксяндза Юзафа Дзям'яна

**У чарговы раз прапануем чытачам публікацыю гістарычнага дакумента – успамінаў аднаго са святароў, якія працавалі на тэрыторыі сённяшняй Віцебскай дыяцэзіі ў міжваенны перыяд.**

■ **Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук*



**Кс. Ю. Дзям'ян,** *фотаздымак са збораў Архідыяцэзіяльнага архіва ў Беластоку*

Ксёндз Юзаф Дзям'ян нарадзіўся 23.03.1900 у в. Краснэ Старэ (Беластоцкі дэканат). Паступіў на тэалагічны факультэт універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. У 1925 паступіў у Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю, якая ў той час была аб'яднаная з тэалагічным факультэтам універсітэта Стэфана Баторыя. Святарскае пасвячэнне атрымаў у 1931 г. Пасля іх быў прызначаны вікарыем у Забалацце Васілішкаўскага дэканата. У 1931–1932 гг. служыў вікарыем у Слабодцы Браслаўскага дэканата, а ў 1932–1934 – катэхетам у школах у Барадзенічах і Параф'янаве. Пасля, у 1934–1939 гг, – пробашч у Быцені (каля Слоніма), з 1941 да 1944 – пробашч у Чарнэй Всі Касцельнай (каля Беластока), а ў 1944–1945 гг. працаваў у Мышынцы. З 1945 быў пробашчам і дэканам у Шчытне, пасля – у Велісляўцу Старым, і з 1954 – пробашч у парафіі Вежхаўцэ. Памёр 11.12.1966 г. Пахаваны ў Беластоку.

У прадмове да ўспамінаў, якія кс. Дзям'ян назваў "Біяграфія крэсовага святара", яго знаёмы кс. Змітровіч адзначыў, што "кс. Юзаф Дзям'ян не належаў да выбітных, быў звычайным святаром Віленскай дыяцэзіі". Пасля сябе кс. Дзям'ян пакінуў значную колькасць вершаў (у рукапісах), апісанне шэрагу гістарычных падзей (у вершаванай форме), апісанне гісторыі парафіі ў Мышынцы, а таксама ўспаміны пра сваё жыццё. Усе гэтыя дакументы захоўваюцца ў Беластоцкім архідыяцэзіяльным архіве. Успаміны напісаны на польскай мове на 111 друкаваных на машынцы старонках і складаюцца з 27 невялікіх раздзелаў, прысвечаных як асноўным момантам з жыцця самога Юзафа Дзям'яна, так і найважнейшым гістарычным падзеям ХХ ст.

Ва ўводзінах да ўспамінаў ксяндза Ю. Дзям'яна кс. Змітровіч адзначыў са шкадаваннем, што, на жаль, біяграфічныя ўспаміны напісаныя досыць сухой мовай, і нестае ім уласцівага кс. Дзям'яну гумару, "якім зіхацелі яго [вусныя] апавяданні". Таксама кс. Змітровіч тлумачыць, чаму ўспаміны перарываюцца вершаванымі фрагментамі: "я часта сустракаў звычай, асабліва сярод шляхты, уплячэння ў размову вершаваных форм, звычайна рыфмаваным куплетам [...]. Гэта павінна было быць паказчыкам інтэлігентнасці". Прапануем пазнаёміцца з часткай гэтых успамінаў, якія ахопліваюць перыяд яго навучання ў семінарыі, а таксама працы ў Слабодцы, Барадзенічах і Параф'янаве.

### Духоўная семінарыя ў Вільні

Духоўная семінарыя ў Вільні размяшчалася ў будынку, які знаходзіўся ля вуліцы Маставой, амаль у самым цэнтры горада. Ля будынка семінарыі стаяў касцёл св. Ежы. Тут таксама быў вялікі сад, акружаны высокім мурам і будынкамі, якія належалі семінарыі. У гэтым садзе клерыкі ў свае вольныя хвіліны шукалі забавы і адпачынку. У семінарыю забаранялася прыходзіць свецкім асобам без дазволу ксяндза-рэктара, а жанчынам увогуле уваход быў забаронены. Для вырашэння розных спраў і для размоваў са свецкімі людзьмі, якія наведвалі клерыкаў, быў вызначаны асобны пакой, так званы parlatorium – інакш кажучы, размоўніца. Пры ўваходзе ў семінарыю знаходзілася вартоўня, дзе заўсёды дзяжурыў вартаўнік. У будынку семінарыі было некалькі калідораў і шмат маленькіх пакояў, інакш келляў, якія мелі маленькія вакенцы з боку калідора. У кожнай з такіх келляў, у залежнасці ад яе памераў, жылі два альбо тры клерыкі.

Таксама ў будынку семінарыі было некалькі залаў. Адна вялікая зала на першым паверсе служыла сталовай і называлася "рэфектарый", а іншыя прызначаліся для навукі і лекцый. Клерыкі свае келлі падмяталі, прыбіралі, мылі падлогі, палілі ў печах, а закупы ў горадзе ажыццяўлялі праз пасярэдніцтва служачага семінарыі, альбо канцэржа. Дробныя ж закупкі рабілі самі ў маленькай крамцы семінарыі. У горад клерыкам забаранялася выходзіць пад пагрозай выключэння з семінарыі, а калі ўжо клерык атрымліваў на гэта дазвол, то кіраўніцтва семінарыі, то бок, рэктар, ксёндз-інспектар альбо таксама ксёндз-прэфект, звычайна давалі яму ў кампанію калегу-соция, з якім ён выходзіў у горад. Перад выхадам трэба было запісацца ў спецыяльнай кнізе: напісаць сваё імя і імя соция, а таксама дакладны час выхаду з семінарыі і дакладны час вяртання. Лекар, цырульнік і некалькі краўцоў мелі ад ксяндза-рэктара агульны дазвол на ўваход у семінарыю, у вызначаныя дні і ў вызначаныя гадзіны маглі тут знаходзіцца і вырашаць справы клерыкаў. Дровы прывозілі дворнікі, яны ж забіралі брудную вопратку для прання, а таксама разносілі клерыкам ежу, падаваную з кухні праз спецыяльнае для гэтай мэты акенца. Калі хто з клерыкаў быў хворы альбо вельмі аслаблены, то мог ісці ў спецыяльны пакой, які называўся "інфірмерыум", паколькі ўдзень не можна было адпачываць у келлях.

Пра гэтыя моманты ў жыцці семінарыі я даведаўся значна раней ад тых, хто адтуль адлічыліся, бо пераканаліся, што не змогуць быць добрымі святарамі. Некаторыя самі сыходзілі, некаторых адлічвала кіраўніцтва семінарыі, а да святарства даходзіла прыкладна 25%. Рэктарам семінарыі быў ксёндз Ушыла – чалавек магутнага целаскладу, які вельмі часта паўтараў слова "менавіта". Адразу за вартоўняй быў невялічкі сад, у якім ксёндз-рэктар часта шпацыраваў і маліўся на брэвіярыі. У тым садзе я і застаў неяк ксяндза-рэктара, занурана ў разважанні.

Пасля прывітання з ксяндзом-рэктарам і кароткай з ім размовы я быў прыняты ў семінарыю і запісаны як алюмн, а тая размова з ксяндзом-рэктарам, хоць кароткая, але вельмі змястоўная, зрабіла на мяне вялікае, незабыўнае ўражанне. Ксёндз-рэктар так мне тады сказаў:

*Ведай, бо гэта добра, калі распазнаеш.*
*Паступай да нас, калі чуеш ў душы пакліканне.*
*Сам у гэтым пераканаешся і жыццё пазнаеш.*
*Можа, нават і добрым ксяндзом станеш.*

*Мусіш таксама ведаць, што ксяндза задача*
*У жыцці вельмі цяжкая і вымагае ахвяры.*
*Будзеш жыць без сям'і, у самотнай часам распачы*
*Ды і прыкрасцяў розных у жыцці будзе без меры.*

*Прысвяці, аднак, Богу свае маладыя гады,*
*І злажы Яму ў ахвяры ўвесь свой далейшы шлях.*
*Толькі ў Богу будзе твая ўзнагарода,*
*Калі пастырам будзеш добрым, на Панскіх палях.*

*Шэсць год у семінарыі знаходзіцца трэба,*
*Па правілах жыць, што даўно ўсталяваны.*
*Толькі вопратку і пасцель свае мець патрэбна*
*Ды і silentium – ціша – тут мае быць захавана.*

Я горача падзякаваў ксяндзу-рэктару за яго каштоўныя заўвагі і папрасіў яго аб дазволе адразу застацца ў семінарыі. І паколькі я ўжо прыняты ў семінарыю, то папрашу служачага, каб прынёс сюды мае ўжо спакаваныя рэчы, даючы яму на гэта дазвол і адрас. Сам жа пайшоў у касцёл, што быў пры семінарыі, і ўжо тут зануруўся ў разважанні і малітву. Выйшаўшы з касцёла, я хацеў пагаварыць з клерыкамі, але адзін не жадаў размаўляць. Я падумаў, што ён нейкі ганарлівы, і звярнуўся да іншага клерыка, які ўжо быў у сутане, але і ён не хацеў са мной размаўляць. Ужо вельмі здзіўлены праз некаторы час я дадумаўся запытацца пра штосьці іншае, бо, відавочна, мае пытанні былі нейкія неадпаведныя. Пра што ж запытацца? Ну хіба што запытаюся, дзе можна ўзяць вады, каб памыцца. Звярнуўся да трэцяга ўжо клерыка з гэтым пытаннем, і той адразу ж мне адказаў і паказаў месца. І тут жа дадаў, што цяпер ужо час Silentium – цішыні, не можна размаўляць. І пайшоў. Тады я зразумеў, чаму не хацелі са мной гаварыць.

На працягу некалькіх начэй я доўга разважаў, не мог заснуць, лежачы на цвёрдым сенніку, напханым саломай, адзін у малой келлі.

*Так нарэшце я клерыкам стаў,*
*Адчуў дзіўную радасць у сэрцы маім.*
*У мурах семінарыі я адтуль начаваў,*
*Мае справы адгэтуль у горадзе служачы наш рабіў.*

*Не адведваюць ужо мяне, у госці ніхто не заходзіць,*
*І да свету я ўжо не маю ніякага дачынення.*
*Манатонна й спакойна дзень за днём мой праходзіць,*
*І аднолькавыя яны: ад світання і да світання.*

Жыццё ў семінарыі было ціхае і спакойнае, але не нуднае. На тое, каб нудзіцца, не хапала часу, бо кожная хвіліна была чымсьці занятая і выкарыстоўвалася адпаведна. Раніцай а пятай гадзіне званок усіх будзіў. За паўгадзіны клерык павінен быў устаць, апрануцца, памыцца, падмесці келлю і прыгожа заслаць ложак. Пасля раздаваўся званок, які клікаў усіх на малітву, – на так званае "разважанне", якое працягвалася паўгадзіны. Пасля гэтага разважання клерыкі ішлі ў касцёл на св. Імшу, і каля сёмай гадзіны пасля св. Імшы ўсе разам ішлі у рэфектарый на сняданне. Падчас снядання ўжо можна было размаўляць.

Пасля снядання да восьмай гадзіны быў час на навуку альбо шпацыр па садзе семінарыі, калі заданні ўжо былі зробленыя. Акурат а восьмай гадзіне распачыналіся заняткі ў аўдыторыях у апаведнасці з курсамі і раскладам. А трынаццатай быў абед, адразу ж пасля лекцый. Абедалі ў рэфектары, а падчас абеду абавязвала silentium, але хтосьці з клерыкаў прамаўляў казанне альбо чытаў штосьці карыснае і натхняльнае. Пасля абеду ўсе клерыкі ішлі ў касцёл на кароткую малітву, потым да трэцяй гадзіны быў вольны час, калі можна было размаўляць і знаходзіцца ў садзе семінарыі. Ад трэцяй гадзіны ізноў пачыналася silentium, і была вучоба ў келлях, падрыхтоўка да лекцый і заўтрашніх заняткаў. А шостай гадзіне званок ужо склікаў на вячэру, падчас якой можна было размаўляць. Да сёмай – вольны час, і а сёмай званок запрашаў на малітву ў касцёле, пасля чаго абавязковай была цішыня аж да снядання наступнага дня.

Пасля малітвы ў касцёле клерыкі ішлі ў свае келлі, дзе вучыліся да дзявятай гадзіны вечара. А дзявятай званок заклікаў да сну, а а дзясятай гадзіне вечара тушылі святло і адпачынак быў прымусовы, святло ўночы забаранялася запальваць. У панядзелкі і чацверы пасля абеду быў абавязковы шпацыр, звычайна далёкі, аж за горад, і не зважаючы на надвор'е, хіба што быў вельмі моцны дождж альбо мароз больш за дваццаць градусаў. Штомесяц, звычайна ў сераду, быў дзень лазні: усе ішлі ў паравую лазню ў горадзе мыцца. Гэты дзень быў вольны ад навукі і заняткаў, яго вельмі любілі. І толькі ўвечары таго дня была доўгая лекцыя духоўнага айца, дысцыплінаванне клерыкаў, альбо "сухая лазня", як гэта называлі клерыкі.

У нядзелі і святы расклад у семінарыі быў трохі іншы. Пабудка – а шостай, замест заняткаў клерыкі ішлі пасля разважання перад сняданнем на св. Імшу у касцёл, а пасля на сняданне. А дзясятай гадзіне накіроўваліся на набажэнства ў катэдру, адкуль звычайна вярталіся на абед. Пасля абеду адбываліся адведзіны клерыкаў іх роднымі і знаёмымі, размовы гэтыя праходзілі ў parlatorium. А шаснаццатай гадзіне клерыкі ішлі на нешпары ў катэдру.

Днём клерыкам не можна было класціся ў ложак на адпачынак, а хто быў хворы, той прасіў пра гэта кіраўніцтва і ішоў у т.зв. infirmerium, дзе мог адпачываць як хворы, і правілы на яго не распаўсюджваліся.

Некалькі разоў на год адбываліся пасвячэнні клерыкаў. Спачатку, пасля двух гадоў вывучэння філасофіі, рабілі танзуру, альбо пастры-



⇐ жэнне, і танзура была пачаткам да ніжэйшых пасвячэнняў: астыарыя, лектара, экзарцыста і акаліта. Танзура рабіла з таго, хто яе прымаў, сапраўднага клерыка. Пасля гэтых чатырох меншых пасвячэнняў наступалі вышэйшыя: субдыякана, дыякана і святара. Тым, хто прымаў пасвячэнні, клерыкі звычайна складалі віншаванні і давалі падарункі: абразкі, кніжкі, а тыя, хто пасвячэнні атрымліваў, звычайна запрашалі ўсіх клерыкаў за салодкі стол.

Доўгае знаходжанне ў семінарыі вельмі знясільвала клерыкаў. Гэта было як бы дабраахвотнай турмой. Калісьці мне нават здарылася магчымасць параўнаць цяжкую турму ў Лукішках, дзе ўтрымліваліся вялікія злачынцы, з нашай семінарыяй. Ксёндз-біскуп Бандурскі ў час Божага Нараджэння павінен быў адправіць у той турме св. Імшу, і мяне з яшчэ адным клерыкам накіравалі паслужыць біскупу да Імшы. Пасля св. Імшы ў прыгожым турэмным касцёле начальнік турмы правёў біскупа і нас як асістэнтаў па ўсёй турме. Вязні спалі на ложках з матрасамі (а мы на саломе), мелі тут у турме касцёл, хор, які складаўся з вязняў, кіно, тэатр, бібліятэку, школу, рамесныя майстэрні для практыкі. Падлогі і сцены былі пафарбаваныя, і толькі краты на калідорах і вышкі з вартаўнікамі на даху гмахаў, а таксама высокі мур сведчылі пра тое, што гэта турма. Нават ежу вязні мелі лепшую, чым мы ў семінарыі. Калі сюды прывезлі некалькі вазоў са слодычамі і апельсінамі, то нават і біскуп запытаўся ў начальніка турмы, навошта так дагаджаць вязням? Начальнік біскупу адказаў так: няхай сюды прыедзе які француз ці англічанін, то ўбачаць, як мы тут утрымліваем вязняў, што ў нас тут сапраўдная дэмакратыя, бо гэта дэмакратычная турма.

Калі мы вярнуліся ў семінарыю, то калегі засыпалі нас пытаннямі, як там у той цяжкай турме? Нават у прысутнасці ксяндзаінспектара Любянца мы ім адказалі, што ў турме значна лепш, чым у нас у семінарыі, толькі што мы ў семінарыі знаходзімся добраахвотна, і заслуга нашая ў сувязі з гэтым будзе вельмі вялікая перад Богам. Гэтыя нашыя словы пацвердзіў ксёндз-інспектар. Нават святара, які не справіцца з такімі патрабаваннямі, не можна моцна асуджаць, бо і ён добраахвотна сядзеў столькі гадоў у "турме" – у семінарыі. Не мелі мы ў духоўнай семінарыі раскошы, і ў жыцці на яе не спадзяваліся, і таму перад святарскімі пасвячэннямі былі рэкалекцыі. На тых рэкалекцыях клерык аналізуе свае магчымасці, спазнае свае перавагі і недахопы і тое, ці зможа справіцца з заданнямі, якія ўскладзе на яго святарства.

Перад ніжэйшымі пасвячэннямі і танзурай звычайна бываюць трохдзённыя рэкалекцыі, а перад вышэйшымі – субдыяканат, дыяканат і прэзбітэрат – рэкалекцыі трываюць шэсць дзён. Рэкалекцыі, а таксама шматлікія канферэнцыі і штодзённыя разважанні даюць клерыку магчымасць у поўнай меры пераканацца, ці мае ён пакліканне да святарства.

*Калі клерык сябе зразумее,*
*зможа добра сябе вывучыць,*
*Што не можа ён у жыцці*
*добрым быць святаром,*
*То пакіне тады семінарыю,*
*трэба так паступіць,*
*Бо ўсё ж клерык і волі сваёй,*
*і ўчынкаў ёсць гаспадаром.*

*Святар радасць павінен*
*мець у любові Хрыста,*
*Бо самотны, без блізкіх*
*сэрцаў, усё ж ён не здаецца.*
*Не зламаюць яго ні*
*няшчасці, ні цяжкога жыцця*
*журба,*
*Бо бяду інакш у святарстве*
*спазнаць давядзецца.*

*Калі ж клерык у святар-*
*стве шукае кар'еры,*
*З пакліканнем святарскім*
*мае погляды спрэчныя.*
*Калі святаром стане, сам*
*сабе ўчыніць бар'еры*
*І змарнуе сваё жыццё – на*
*зямлі і вечнае.*

Звычайна адразу пасля паступлення клерык спазнае правілы жыцця ў семінарыі, якія належыць выконваць, і для дапамогі яму кіраўніцтва дае старэйшага клерыка, альбо вігілятара – апекуна, каторы знаёміць свайго выхаванца з ходам жыцця ў семінарыі, а на пачатку нават адказвае за яго ўчынкі. Кіраўніцтва вызначыла маім вігілятарам вельмі пабожнага і разважлівага клерыка Ю. Хомскага, і гэта мела вельмі вялікі ўплыў на маё жыццё ў семінарыі. Многіх клерыкаў адлічвалі з семінарыі, а многія таксама самі пакідалі вучобу, калі разумелі, што не змогуць быць добрымі святарамі. Таму да святарства даходзіў невялікі працэнт ад тых, хто паступаў. Тыя ж клерыкі, якіх адлічылі з семінарыі, альбо тыя, якія самі адлічыліся з яе, як студэнты тэалагічнага факультэта [Віленскага ўніверсітэта] пераводзіліся на іншыя факультэты, напрыклад, на медыцынскі, права альбо гуманітарны і жылі ў горадзе. Тыя ж, хто атрымаў святарскае пасвячэнне, ішлі на працу на ніве Хрыста.

Пасля шасцідзённых рэкалекцый я атрымаў святарскае пасвячэннен ў катэдры ў Вільні з рук Я[го] Э[ксцэленцыі] ксяндзабіскупа Міхалькевіча – суфрагана ў Вільні, і праз некалькі дзён адправіў прыміцыйную св. Імшу ў сваёй роднай парафіі Ясянуўка. Усім шматлікім вернікам, што сабраліся, удзяліў прыміцыйнае благаслаўленне. Пасля прыміцый ужо на другі дзень я развітаўся са сваімі бацькамі, паколькі меў такі загад: адразу ж пасля прыміцый з'явіцца ў арцыбіскупскую курыю ў Вільні.

*Працяг будзе.*

# Фантазии об иезуитах, синодальность и традиционалисты: Папа Франциск ответил собратьям

**В последний день апостольского визита в Канаду Папа Франциск встретился с общиной своих собратьев-иезуитов. Беседа состоялась в Квебеке, на ней присутствовали иезуиты Канадской провинции, включающей также Гаити.**



Приветствовав представителей Общества Иисусова, Святейший Отец отметил, что нередко об иезуитах говорят как об "армии Церкви", своего рода мощном войске. "Все это фантазии! – констатировал Папа Франциск. – Никогда нам не приходило в голову думать о собственной самодостаточности. Я думаю, что истинная сила иезуита изначально заключена в осознании собственной хрупкости. Силу нам дарует Господь".

Папа Франциск подчеркнул, насколько важно для поместной Церкви единство епископата. В Канаде процесс исцеления и примирения с коренными народами стал возможен именно благодаря этому единству. Пантифик добавил, что во время своей поездки он встретил и группу традиционалистов, которые протестовали. "Худший враг церковного единства и епископатов – это идеология", – сказал Папа Франциск.

Далее Папа ответил на вопрос одного из собратьев о синодальности Церкви. "Меня коробит, когда прилагательное "синодальный" употребляют так, будто это – окончательный рецепт для Церкви. Выражение "синодальная Церковь" избыточно: Церковь – она либо синодальная, либо это не Церковь. Вот почему мы пришли к Синоду о синодальности, – чтобы подчеркнуть это. Безусловно, можно сказать, что на Западе Церковь утратила свою синодальную традицию. Церковь на Востоке сохранила ее. Конечно, можно дискутировать о способах осуществления синодальности".

Папа Франциск рассказал, как в 2001 году он был одним из докладчиков на Синоде епископов. Нужно было собирать мнения и представлять собранный материал Генеральному секретариату. "Я собирал материалы, чтобы потом по ним голосовали. Секретарь Синода ко мне приходил, читал материалы и говорил убрать то одно, то другое. Некоторые вещи он считал неуместными и подвергал их цензуре. Словом, происходил предварительный отбор материалов. Тогда не понимали, что такое Синод".

В конце беседы с иезуитами Канады и Гаити Папа ответил на вопрос о значении литургической подготовки и сослался на недавно принятые документы в этой области. Он отметил, что последние изменения в этой области были сделаны для того, чтобы литургия согласно дособорному обряду не превратилась в "моду", а оставалась в пастырском пространстве.

***Ольга Сакун,***
*русская редакция Vatican News*

# Фэст у касцёле св. Ігнацыя Лаёлы

**У новаасвечаным касцёле св. Ігнацыя Лаёлы ў Віцебску адбыўся парафіяльны фэст. Урачыстасць прайшла з нагоды святкавання літургічнага ўспаміну св. Ігнацыя 31 ліпеня.**

■ **Святлана Вайсковіч**, *тэкст;*
**Анатоль Бандарчук-Вошлаў**, *фота*

Святую Імшу ўзначаліў кс. канонік Віктар Місевіч, які некалькі гадоў быў адміністратарам гэтай парафіі. На літургіі прысутнічаў а. Кляменцій Верт SJ, які будаваў касцёл. Ён маліўся з парафіянамі як звычайны вернік, бо не мае дазволу свецкіх уладаў на рэлігійную дзейнасць.

У сваёй гаміліі кс. Віктар не выпадкова спачатку звярнуўся да маленькіх парафіянаў, бо дзеці – гэта адметнасць маладой супольнасці ў мікрараёне Білева ў Віцебску. Святар з маленькімі парафіянамі разважалі пра ролю святога заступніка Ігнацыя і Найсвяцейшай Панны Марыі ў гісторыі збаўлення людзей.

Звяртаючыся да больш старэйшай аўдыторыі, святар паразважаў пра духоўны сэнс фрэсак, якімі распісаны новы касцёл. Ён падкрэсліў галоўную думку з тэксту Евангелля на нядзельнай св. Імшы: не збірайце скарбы сабе, але перад Богам багацейце! Падчас набажэнства вернікі маліліся і дзякавалі Богу за прысутнасць айцоў-езуітаў у Віцебску.

Пасля святой Імшы адбылося ўшанаванне рэліквій святога Ігнацыя Лаёлы.

Сапраўдны фэст не праходзіць без пачастункаў. Таму пасля малітвы ўсе вернікі разам са святарамі мелі магчымасць правесці час разам за салодкім сталом і сяброўскімі размовамі.



# Зацикленность на замужестве: психологический взгляд на вопрос

**Все помнят сказки, которые нам читали в детстве. Все они так или иначе заканчивались свадьбой и воссоединением возлюбленных, после чего они “жили долго и счастливо”. То есть само понятие счастья в них было связано с замужеством. Также наши мамы и бабушки с ранних лет говорили нам: “Вот вырастешь – и выйдешь замуж”.**

■ Марина Ткач, *психолог*



Все это откладывается в голове, и, когда мы взрослеем, возникает уверенность, что брак действительно необходим. В какой-то момент случается так, что уверенность трансформируется в зацикленность на браке. Именно об этом и поговорим сегодня.

Отмечу, что с этологической (этология – наука об инстинктах) точки зрения для девушки/женщины абсолютно естественно стремиться создать пару с мужчиной, а потом эту пару развить в семью. И для любой женщины брак крайне важен, поскольку рассматривается как пространство близости и взаимного созидания в условиях любви и безопасности.

Но если все-таки говорить о тех девушках/женщинах, которые стремятся и жаждут замужества, то причинами такого поведения могут быть:

**Тревога за свой статус в обществе.** Если женщина состоит в браке, значит, она “нормальная”. Если мужа нет, то что-то не так. И тогда это автоматически переводит вас в разряд “белой вороны”, “не такой как все” или, что еще хуже, все начинают задумываться о вашем физическом здоровье: раз вы не замужем и детей нет, значит что-то с **вами не так.**

**Страх одиночества.** Страх остаться одной, быть никому не нужной не редко выступает стимулом найти себе любого мужчину. В таком случае задайте себе вопрос: “Что для меня хуже: прожить всю жизнь в одиночестве или прожить жизнь с нелюбимым человеком?” Переживания не встретить “своего” человека заставляет многих завязывать отношения не с теми людьми. Если вы для себя поймете и определитесь, что “лучше уж самому, а не с кем попало”, вам будет намного проще жить, уровень тревоги снизится, и вы сможете с большим достоинством вступить в отношения. Одиночество можно рассматривать в двух аспектах: как действительно одиночество и как свободу, свободу принадлежать себе. Выбор зависит только от вас.

**Социальные установки и общественное мнение.** Фразы: “Выйдешь замуж – все у тебя будет”, “Пора замуж”, “Часики-то тикают” безусловно оказывают сильное психологическое давление.

**Чем чревато это навязчивое желание выйти замуж?**

Развитием такого чувства, как **зависть**: ум то и дело будет выхватывать из жизни примеры “удачно вышедших замуж” подруг и знакомых. И от этого страдать.

**Одиночеством**. Да-да, именно одиночеством. Ведь с женщиной, чьи интересы ограничиваются лишь одной темой, становится скучно. А мужчинам еще и страшно, ведь такая женщина как завоеватель идет к своей цели любой ценой.

**Неврозами и даже депрессиями.** Каждый “незамужний день” отдаляет такую женщину от мечты, и происходит конфликт между желаемым и реальностью.

**Как перестать зацикливаться на замужестве и нужно ли это вообще делать?**

Зацикливаться на чем бы то ни было вообще вредно, а на замужестве уж точно незачем, потому что когда это становится “навязчивой идеей”, восприятие мира сужается до точки, до единственной мысли: “а ведёт меня это в замужество или нет?” И такая девушка/женщина может просто перестать замечать всю остальную жизнь вокруг себя.

Еще очень важно перестать зависеть от общественного мнения. Каждый из нас на протяжении жизни попадает под своеобразный каток социальных норм: “надо” окончить университет, “надо” работать, выйти замуж, родить детей, купить квартиру, построить дом, сделать то, другое, третье… Нескончаемый поток всех этих “НАДО”.

Как устоять под этим шквалом? Во-первых, не стоит убеждать, спорить или ругаться с близкими, родными или просто “неравнодушными” людьми, которые лучше знают, как вам жить.

Люди поступают так, как им кажется верно. Часто разговоры о том, как “должно, надо” – это необработанная трансляция посланий “предков”. Так говорила бабушка, мама, теперь и я, не обдумав, повторяю. Если продемонстрировать родным то, что некоторые темы тебе неприятны и ты не собираешься их обсуждать, к ним приходит осознание: а что, так можно?! Не влезать в чужую жизнь. Не комментировать. Не смотреть на взрослых дочерей как на неразумных малышей, которых требуется направлять ценными указаниями.

Использовать технику заезженной пластинки. Суть ее в том, чтобы повторять одно и то же, пока человек запомнит/осознает/отвяжется. Стоит демонстрировать решимость не касаться вашей личной жизни, давать понять, что вопросы “Тебе пора стать мамой или женой” или “Когда уже замуж/дети” крайне бестактны, что задавать их и тем более ждать ответа не стоит. Рано или поздно родные или посторонние люди привыкнут к запрету.

Конечно, относиться после такого к вам лучше не станут, а даже, может, наоборот, но таким способом вы убережете себя от тревоги и переживаний и будете максимально наслаждаться каждым днем своей жизни.

Замужество и семья – отличное и вполне закономерное продолжение развивающихся парных отношений, но вовсе не панацея и не спасение “от прочих невзгод и одиночества”. И уж тем более не повод соответствовать чьим-то представлениям о том, как правильно нужно жить, а быть счастливой и самореализованной.

# На масту? На масце? На мосце?

## *Як будзе правільна па-беларуску?*

**Апошнім часам мы ўсё часцей атрымліваем пытанні адносна правільнасці ўжывання тых ці іншых слоў або словаформаў. І гэта не можа нас не цешыць, паколькі выразна сведчыць пра неабыякавасць чытачоў “Каталіцкага Весніка” не толькі да беларускага слова ўвогуле, але і да асаблівасцяў яго ўжывання.**

■ Юрась Бабіч , *кандыдат філалагічных навук*

Гэтым разам паспрабуем асвятліць некаторыя аспекты выкарыстання назоўнікаў у месным склоне. Гаворка пойдзе пра назоўнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку (другое скланенне). Бо акурат у названай форме праблемы назіраюцца досыць часта. А падказала нам тэму спадарыня Надзея з Паставаў. Яна пытае, у прыватнасці, пра ўжыванне канструкцый са словам “**мост**”. “Заўважыла, – піша наша чытачка, – што і на радыё, і на тэлебачанні гавораць, напрыклад, **стаяць на масту**, **стаяць на масце** і **на мосце.** Ці **ехаць па масту** або **ехаць па масце** ці **па мосце.** Здавалася б, дробязь. Якая розніца, калі сэнс усё роўна не зменіцца? Але хацелася б усё ж ведаць, як павінна быць на ўзорнай беларускай мове”.

Мы дзякуем спадарыні Надзеі за агучаную праблему і паспрабуем больш шырока паглядзець на асаблівасці выкарыстання назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам у месным склоне адзіночнага ліку.

У месным склоне назваными назоўнікі могуць мець канчаткі **-у**, **-ю**, **-ы**, **-і**. **-е**. Выбар канчатка залежыць ад лексічнага значэння слова і характару апошняга зычнага асновы – цвёрды ён ці мяккі.

1. Канчатак **-у** будзе нормай для агульнаасабовых назоўнікаў (гэта значыць, якія абазначаюць чалавека), уласных імёнаў з асновай на зацвярдзелы зычны, а таксама на **г**, **х**, якія не чаргуюцца з **з**, **с**: *друкар – пры друкару, Мележ – пры Мележу, дырэктар – пры дырэктару, Багушэвіч – пры Багушэвічу, хлопец – пры хлопцу, драматург – пры драматургу, псіхолаг – пры псіхолагу, конюх – пры конюху.* Канчатак **у** заўсёды ўжываецца, калі аснова назоўніка заканчваецца на **к**. Тут не мае значэння, асабовы назоўнік ці неасабовы: *будаўнік – пры будаўніку, узлесак – на ўзлеску, Віцебск – у Віцебску.*

З гэтым жа канчаткам традыцыйна выкарыстоўваецца ў нашай мове даволі значная група ўласнабеларускіх і добра асвоеных моваў назоўнікаў з асновай на **г**, **х**: *мох – у імху, дух – у духу, рух – у руху, дах – на даху, мех – у мяху, пірог – у пірагу, мурог – на мурагу, жах – у жаху* і інш.

Канчатак **-у** маюць таксама назоўнікі неславянскага паходжання з асновай на **г**, **х**, якія не чаргуюцца з **з**, **с**: *Гамбург – у Гамбургу, Ганконг – у Ганконгу, Цюрых – у Цюрыху, маналог – у маналогу, блог – у блогу* і г.д.

Апошнім часам назіраецца тэндэнцыя да пашырэння сферы выкарыстання словаформ з канчаткам **-у** і ў асабовых назоўніках з цвёрдай асновай: *сын – пры сыну, брат – пры брату, студэнт – пры студэнту* і інш. Сёння варта лічыць абедзве формы правільнымі – з канчаткамі **-е** і **-у**: *пры сыне* і *пры сыну, пры браце* і *пры брату, пры студэнце і пры студэнту.*

2. Канчатак **-ю** маюць асабовыя назоўнікі з асновай на мяккі: *Васіль – пры Васілю, Андрэй – пры Андрэю, каваль – пры кавалю, герой – пры герою.*

3. Згодна з патрабаваннямі літаратурных нормаў, канчатак **-ы** выкарыстоўваецца ў неасабовых назоўніках з асновай на зацвярдзелы зычны: *бор – у бары, трактар – на трактары, рубеж – на рубяжы, нож – на нажы, кірмаш – на кірмашы, продаж – у продажы, дубец – на дубцы.*

Дастаткова частотны ў штодзённай камунікацыі назоўнік **двор** мае розныя канчаткі ў залежнасці ад лексічнага значэння. Так, канчатак **-ы** будзе нарматыўным, калі слова *двор* абазначае “месца каля будынкаў”: *у двары дома, на ўніверсітэцкім двары, у двары школы.* Калі ж рэалізуецца значэнне “на свежым паветры, не ў памяшканні”, то ўжываецца флексія **-э**: *на дварэ сёння сонечна, на дварэ дождж, на дварэ жнівень.*

4. Канчатак **-і** маюць неасабовыя назоўнікі з мяккай асновай: *агонь – на агні, конь – на кані, бой – у баі, край – у краі, дзень – пры дні, аўтамабіль – на аўтамабілі.*

5. З канчаткам **-е** ўжываюцца неасабовыя назоўнікі (гэта значыць, якія не абазначаюць чалавека) з асновай на цвёрды зычны, а таксама з асновай на **г**, **х**, якія чаргуюцца з **з**, **с**: *дуб – на дубе, сход – на сходзе, голас – у голасе, кажух – у кажусе, бераг – на беразе, луг – на лузе.* Даволі пашыраныя ў маўленчай практыцы формы кшталту *на кусту, на млыну, у куту, на масту* трэба адназначна лічыць памылковымі. Нарматыўным тут таксама з'яўляецца канчатак **-е**: *на кусце, на млыне, у куце, на мосце.* І, як можна меркаваць, мы маем адказ на пытанне нашай чытачкі спадарыні Надзеі: правільна па-беларуску будзе *стаяць на мосце*, *ехаць па мосце*. І толькі так!

Адначасова трэба памятаць, што фіналь **-у** выкарыстоўваецца ў складзе спалучэнняў кшталту *на хаду, на бягу, на віду, на ляту.*

Таксама заўважым, што з канчаткам **-е** варта выкарыстоўваць у месным склоне ўласны назоўнік *Пецярбург*, паколькі слова ўжо даўно асіміляванае беларускай мовай: *у Пецярбурзе.* Форма *ў Пецярбургу* лічыцца пакуль варыянтнай.

Такім чынам, пры выбары канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку ў месным склоне неабходна, перш за ўсё, кіравацца лексічным значэннем слова, таксама беручы пад увагу характар апошняга зычнага асновы – цвёрды ён ці мяккі. Спадзяёмся, што прапанаваны матэрыял дапаможа пазбегнуць недакладнасцяў пры карыстанні нашай мілагучнай мовай і будзе садзейнічаць павышэнню агульнай культуры маўлення.

# “Няма большай любові”: Росіца зноў сустрэла сваіх пілігрымаў

**5 і 6 жніўня ў Росіцы адбыліся традыцыйныя ўрачыстасці. Гэта маленькая вёска ў Верхнядзвінскім раёне стала месцам трыумфу любові, мужнасці, сапраўднай пастырскай адданасці Хрысту і людзям.**

Тут у лютым 1943 года падчас карнай экспедыцыі ў агні згарэла больш за паўтары тысячы чалавек, а разам з імі – блаславёныя мучанікі айцы-марыяне Юры Кашыра і Антоні Ляшчэвіч. Святары добраахвотна выбралі смерць, каб у гадзіну страху і выпрабаванняў быць разам са сваімі вернікамі і дапамагаць ім духоўна.

Урачыстасці распачаліся Імшой для пілігрымаў, якую цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч разам з арцыбіскупам на пенсіі Тадэвушам Кандрусевічам і апостальскім візітатарам для грэка-католікаў у Беларусі архімандрытам Сяргеем Гаекам.

Адметнасцю сталі дзве значныя падзеі: пасля двухгадовага перапынку аднавілася пешая пілігрымка Друя – Росіца. У гэтым годзе пад кіраўніцтвам айцоў-марыянаў трохдзённы шлях пераадолелі сто пяць чалавек. Таксама прыгожым фактам стаў хрост маленькага Міхаіла Руткевіча. Перад удзяленнем сакраманту біскуп Алег зазначыў: “Як абвяшчае адна з хрысціянскіх праўдаў, кроў мучанікаў з’яўляецца насеннем хрысціян. І сёння мы гэтую праўду перажывём у даслоўным значэнні”.

У далейшай малітоўнай праграме былі Акафіст Росіцкім мучанікам, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, канферэнцыя а. Аляксандра Жарнасека MIC і Ружанцовая малітва. У гэты час многія вернікі прыступілі да споведзі, каб вызнаць свае грахі і паяднацца з Езусам Хрыстом.

Святую Імшу апоўначы ўзначаліў арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч. Падчас свайго казання іерарх нагадаў, што “гісторыя Касцёла – гэта не толькі гісторыя яго славы, але таксама і гісторыя ганенняў і мучаніцтва”. Сярод прыкладаў мучаніцтва мітрапаліт спыніўся і на прыкладзе айцоў Юрыя і Антонія.

“Росіцкія мучанікі не пакінулі сваіх вернікаў без пастырскай апекі, калі іх разрываў воўк у вобразе чалавека. Не збеглі, бо не былі наймітамі, але сапраўднымі пастырамі. Да канца баранілі свой статак, нават коштам асабістага жыцця. Сваёю смерцю пацвердзілі словы Хрыста, што няма большай любові, як калі хтосьці аддае жыццё за іншага чалавека.

Напэўна, для многіх, асабліва маладых людзей іх ахвяра з’яўляецца незразумелай, бо так ці інакш людзі асуджаныя былі загінуць. Аднак святары ведалі, што рабілі. Яны засталіся вернымі пастырамі даверанага іх пастырскай апецы народа да канца і гэтую вернасць пацвердзілі праліццём крыві”.

Разам з тым мітрапаліт Тадэвуш прапанаваў паразважаць: “У гадзіну выпрабаванняў нашай веры секулярнымі тэндэнцыямі, якім вернікам я з’яўляюся? Сапраўдным або штучным? Што мяне яднае з Касцёлам – толькі пасведчанне аб хросце ці сапраўднае хрысціянскае жыццё? (...)

Няхай прыклад блаславёных айцоў Юрыя і Антонія дапаможа нам не баяцца цяжкасцяў сучасных выклікаў, каб мы сумленна выконвалі свае жыццёвыя абавязкі і былі сведкамі хрысціянства. За гэта Хрыстус напрыканцы нашага жыцця скажа: “Слуга верны, увайдзі ў радасць Майго Валадарства”.

Пасля заканчэння святой Імшы ўдзельнікі ўрачыстасцяў накіраваліся на месца мучаніцкай смерці блаславёных святароў. Спяваючы літанію да ўсіх Святых з запаленымі свечкамі ў руках, вернікі ішлі на пляц мучаніцтва. Ішлі туды, дзе ў агні згарэлі людзі, туды, дзе любоў перамагла нянавісць і зло. Быццам знак гэтай перамогі на тым месцы ўсталяваны высокі крыж, адарацыяй якога і скончылася працэсія.

Зоркі на небе і пакінутыя ля крыжа свечкі рассейвалі начную цемру і нагадвалі кожнаму, што Любоў Хрыста перамагае цемру граху, цемру нянавісці і нашых штодзённых цяжкасцяў. Бо “няма большай любові, як жыццё аддаць за сяброў сваіх” (пар. Ян 15,13).




**Працэсія на месца мучаніцкай смерці блаславёных айцоў Юрыя і Антонія**



*Вікторыя Філіпенка, тэкст*
*Марына Сінкевіч, фота*
*Леанід Юрык, відэа*

## У Празарокі на парафіяльны фэст прывезлі копіі цудадзейных абразоў Маці Божай

**2 жніўня, калі ў Каталіцкім Касцёле адзначаецца ўспамін Маці Божай Анёльскай, у парафію Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Празароках (Глыбоцкі дэканат) прыбылі копіі славутых ласкамі абразоў Маці Божай з беларускіх санктуарыяў.**

■ Марына Сінкевіч, *тэкст і фота*

У чэрвені 2021 года адбылася аўтамабільная пілігрымка з гэтымі абразамі ўздоўж межаў Беларусі, якая пераадолела больш за 2500 км. Яе арганізавалі па ініцыятыве пробашча Мінскай парафіі св. Сымона і св. Алены кс. каноніка Уладзіслава Завальнюка. Падчас пілігрымкі ўдзельнікі трымалі пост і здзяйснялі малітву за нашу краіну, за з’яднанне беларускага народа, за як найхутчэйшае аднаўленне санктуарыя ў Будславе пасля пажару, за ўсіх жыхароў краіны і за ўмацаванне ў веры для ўсіх грамадзян.

Пасля пілігрымкі ўздоўж межаў краіны копіі абразоў вось ужо другі год пілігрымуюць па парафіях Беларусі. Празарокі сталі 38-м прыпынкам у гэтым вялікім падарожжы.

Сустрэць абразы жыхары і госці парафіі разам са сваім пробашчам кс. Дзмітрыем Рацько сабраліся ў пачатку вёскі, каб потым урачыста прайсці працэсіяй да касцёла.

Пасля прывітання і перад пачаткам св. Імшы быў час, каб кожны асабіста мог аддаць пашану Маці Нябеснай і данесці Ёй свае просьбы і падзякі. Ушанаваць абразы Маці Божай у касцёл прыйшлі не толькі католікі, але былі браты і сёстры праваслаўныя. Кс. Дзмітрый адзначыў, што Празарокі – першая парафія ў Віцебскай дыяцэзіі пасля санктуарыя ў Браславе, у якую завіталі копіі цудадзейных абразоў Маці Божай.

Святую Імшу цэлебраваў а. Станіслаў Станеўскі CSsR – духоўны кіраўнік гэтай пілігрымкі разам са святарамі, якія прыбылі з суседніх парафій. Звяртаючыся да прысутных, святар распавёў пра важнасць у нашым жыцці заступніцтва Нябеснай Маці перад Сваім Сынам і прыгадаў, што “Марыя – найлепшая Маці, Якая клапоціцца пра сваіх дзяцей. Гэта Матуля, Якая хоча кожнага з нас прытуліць, выслухаць і дапамагчы”. Далей копіі абразоў накіраваліся ў парафію св. Мікалая ў Свір.

Як адзначыў а. Станеўскі, перэгрынацыя копій найбольш вядомых марыйных абразоў з беларускіх санктуарыяў па парафіях Віцебскай дыяцэзіі распачнецца з ліпеня 2023 года.




## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Навалукомль)*, **парафіяне з в. Яцкавічы, Соф’я Рагіня** *(Сарокі)*, **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі)*, **Эма Клепацкая** *(Сарокі)*, **Валянцін Бартко** *(Сарокі)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Людміла Падаляка** *(Полацк)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Алена Махальская** *(Падсвілле)*, **Леакадзія Рамейка** *(Рамейкі)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Таццяна Русецкая** *(Рудаўка)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Браніслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ала Краўчонак** *(Таргуны)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Люцыя Голуб** *(Дуброўшчына)*, **Марыя Рагіня** *(Стары Двор)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Алена Сасіновіч** *(Глыбокае)*, **Ірына Астраушка** *(Паставы)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Леангіна Давыдзёнак** *(Усце)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Ганна Лук’янская** *(Пялікі)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Ванда Усціновіч** *(Януковічы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# Выстава “Святая Людміла – “калыска” чэшскай святасці” ў Віцебску

**31 ліпеня ў Віцебскай парафіі Святога Духа, якой апякуюцца айцы-сальватарыяне, адбылося адкрыццё часовай дакументальнай выставы, прысвечанай першай славянскай пакутніцы – святой княгіні Людміле Чэшскай. Незвычайная падзея распачалася святой Імшой, цэлебрацыю якой узначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч у прысутнасці Пасла Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадара Томаша Пернiцкага і часова паверанай у справах Славакіі Катарыны Жакавай, а таксама мясцовых вернікаў і гасцей.**

■ **Аксана Касцючэнка**, *тэкст;* **Ганна Байкова**, *фота*

Пастыр Віцебскай дыяцэзіі ў прамоўленай гаміліі звярнуў увагу на духоўныя каштоўнасці як на галоўныя арыенціры ў жыцці чалавека, здабыванне каторых патрабуе намаганняў. Іерарх прадставіў святую Людмілу як прыклад яднання і мужнасці для нашага часу. Яна засведчыла сваім жыццём, што “праўда пра тое, што Бог ёсць Любоў, ёсць Міласэрнасцю, цяжка ўваходзіць у жыццё чалавека”. Але, нягледзячы на выпрабаванні, святая вытрывала да канца. Біскуп Алег нагадаў, дзякуючы Каму і чаму, чалавек здольны быць моцны: “Калі мы адбудуем адносіны з Богам, адбудуем духоўнае жыццё, тады будзем моцнымі перад выпрабаваннямі сучаснасці, тады будзем ведаць і будзем спакойныя, гледзячы ў будучыню. Бо калі з намі Бог, хто супраць нас? Вось гэтае важнае пытанне, якое сёння нам нагадвае Езус Хрыстус. Не дабро, якое збіраем у гэтым свеце, а адносіны з Богам робяць нас спакойнымі”.

На заканчэнне іерарх памаліўся, каб Бог праз заступніцтва св. Людмілы навучыў нас прынцыпу: “Мудра ацэньваць тое, што з намі адбываецца ў гэтым свеце, а любіць і ўсе нашыя памкненні і думкі кіраваць да дабротаў вечных, трывалых, галоўнай з якіх з’яўляецца наш Бог і Творца”.

Пасля святой Імшы ўсе ўдзельнікі накіраваліся ў парафіяльны зал, дзе спадар Томаш Перніцкі адкрыў выставу, пазнаёміўшы прысутных з жыццём святой Людмілы.

Святая Людміла Чэшская (+ 921 г.) – княгіня і заступніца Чэшскай зямлі – першая славянская пакутніца. Лічыцца заступніцай бабуль і хрысціянскіх выхавальнікаў і настаўнікаў. Будучы хроснай дачкой святога роўнаапостальнага Мяфодзія, арцыбіскупа Мараўскага, Людміле ўдалося захаваць у Чэхіі царкоўнае богаслужэнне на славянскай мове.

Праводзячы набожнае жыццё, распаўсюджваючы хрысціянскую веру ў Чэхіі, святая Людміла стала годным прыкладам свайму ўнуку, князю Вацлаву, які перанёс рэшткі княгіні Людмілы з Цяціна ў Прагу і паклаў іх у касцёле святога Йіржы (Георгія), дзе яны знаходзяцца аж па сённяшні дзень. Святая Людміла Чэшская на ўсе наступныя стагоддзі заклала духоўна-культурны падмурак для развіцця цэлых краін і народаў. Подзвіг княгіні Людмілы Чэшскай стаў той справай, якой яна прысвяціла сваё жыццё, сваё служэнне Богу і блізкім.




Місія святой Людмілы і дагэтуль служыць пуцяводнай зоркай шматлікім хрысціянам, якія жывуць у Еўропе. Так, хрысціянская культура Чэхіі стала часткай агульнахрысціянскай культуры славянскага свету і ўсёй Еўропы.

На выставе “Святая Людміла – “калыска” чэшскай святасці” прадстаўленыя плакаты адлюстроўваюць жыццё і пакутніцкую смерць святой, яе значэнне ў хрысціянізацыі Чэхіі і шанаванне ў наступныя стагоддзі. Больш інфармацыі на сайце www.svataludmila.cz

Завяршылася мерапрыемства супольным абедам і словамі падзякі біскупу Алегу Буткевічу за прысутнасць і Паслу Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадару Томашу Перніцкаму за арганізацыю і дабрачыннасць, а таксама за дапамогу ў арганізацыі імпрэзы дырэктару Caritas Віцебскай дыяцэзіі а. Аляксандру Сапелю SDS, парафіяльнаму камітэту і ўсім, хто спрычыніўся да гэтай добрай падзеі.

# Дыяцэзіяльныя дні моладзі



**“Яны трывалі ў вучэнні Апосталаў і ў супольнасці, у ламанні хлеба і ў малітвах” (Дз 2, 42) – менавіта гэты ўрывак быў тэмай Дыяцэзіяльных дзён моладзі, якія прайшлі 22-24 ліпеня ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе. Увесь гэты час маладыя людзі разважалі над чатырма падмуркамі жыцця хрысціяніна – малітвай, вучэннем Апосталаў, Эўхарыстыяй і супольнасцю. Кожны дзень моладзь мела магчымасць удзельнічаць у святых Імшах, супольных малітвах і цікавых прапановах праграмы.**

Першы дзень быў прысвечаны трыванню ў малітве, пра што ў канферэнцыі распавёў кс. Яўген Шымановіч. Святар расказаў, як падрыхтавацца да малітвы і як не страціць канцэнтрацыю, якія спосабы малітвы існуюць і як знайсці на яе час у нашым мітуслівым жыцці. Напрыканцы дня ў моладзі была магчымасць скарыстацца пачутымі парадамі падчас малітвы праслаўлення.

Другі дзень таксама атрымаўся вельмі прадуктыўным. Першую палову дня маладыя вернікі ўдзельнічалі ў workshops (круглыя сталы), якія праводзілі псіхолагі – супрацоўнікі дабрачыннага фонду “Адкрытыя сэрцы”. Удзельнікі сустрэчы мелі магчымасць выбраць адну з чатырох прапанаваных тэмаў: як супрацьстаяць маніпуляцыям; тайм-менеджмент: як эфектыўна кіраваць сваім часам; майстар-клас па публічных выступах; майстар-клас па відэамантажы.

Канферэнцыя другога дня, якую прамовіў кс. Валерый Марціноўскі, прысвячалася трыванню ў вучэнні Апосталаў, ролі Касцёла ў жыцці хрысціян і яго аўтарытэту. Пасля ўдзельнікаў чакала сустрэча з Езусам падчас адарацыі. Напачатку а. Віктар Мялешка OFMConv заахвоціў усіх памятаць аб месцамі ў касцёле, каб побач было як мага больш незнаёмых людзей (хоць, вядома, для многіх гэта было няпроста праз вялікую колькасць знаёмых і сяброў на сустрэчы). Святар нагадаў, што адарацыя – гэта час для спаткання дваіх – цябе і Езуса, і ўдакладніў, што гэта – як спатканне закаханых, на каторае не запрашаем сяброў.

Увечары моладзь сабралася на канцэрт гурта TALITHA KUM, які стаў сапраўдным малітвай, праслаўленнем і сведчаннем хрысціянскай радасці і любові.

Апошні дзень сустрэчы быў прысвечаны разважанням пра Эўхарыстыю і трыванню ў супольнасці. У канферэнцыі аб “трыванні ў ламанні хлеба” кс. Віталь Венцкевіч распавёў пра важнасць падрыхтоўкі і актыўны ўдзел у святой Імшы, а таксама пра асноўныя яе часткі. Таксама святар заклікаў маладых людзей заўсёды заставацца сабой. Не трэба ўдавацца кімсьці, кім насамрэч не з’яўляешся, калі прыходзіш у Касцёл, нават будучы грэшнікам. Быць сабой усюды – і ў Касцёле і па-за ім.

Другая канферэнцыя прысвячалася трыванню ў супольнасці. Яе прамовіў кс. Алег Хмылко. Душпастыр моладзі Віцебскай дыяцэзіі распавёў пра тое, што з’яўляецца супольнасцю, як яе знайсці, а таксама прыгадаў розныя цяперашнія малітоўныя супольнасці. А яшчэ хлопцы і дзяўчаты мелі магчымасць даць сведчанні аб дзейнасці Бога ў іх жыцці.

На працягу ўсіх трох дзён сярод насычанай праграмы маладыя людзі мелі таксама час на гульні, на гарбату і на прыемныя размовы.

***Дзіяна Сайкоўская,*** *ddm-vicebsk.by*
***Ганна Смільгінь, Аляксандра Малец,*** *фота*

## На верасень прыпадаюць імяніны, дні нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*; імяніны адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч ОР** *(Віцебск)*;

**4 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**9 верасня** – імяніны адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**18 верасня** – імяніны адзначае **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19 верасня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Бягомль)*;

**20 верасня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Уладзімір Грыгор’еў**;

**21 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*, **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**26 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч** *(Дырэктар нацыянальнага Карытас)*;

**28 верасня** – імяніны адзначаюць **кс. Вячаслаў Барок, кс. Вячаслаў Пялінак** *(Брэст)*, **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**29 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; імяніны адзначаюць **а. Міхаіл Ермашкевіч ОР** *(Сянно)*, **кс. Міхаіл Татарэнка.**

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***

# *Agere contra:* дзейнічаць насуперак спакусе



**У арсенале духоўнай зброі, якую пакінуў Касцёлу св. Ігнацый Лаёла, ёсць адзін вельмі дзейсны сродак. Калі вучань Хрыста навучыцца ім добра карыстацца, то дасягне вялікіх поспехаў на духоўным шляху. Гаворка пра прынцып, які на лацінскай мове гучыць agere contra, што даслоўна перакладаецца як "супрацьдзейнічаць, рабіць насуперак".**

■ **Айцец Віктар Жук,** *езуіт з Віцебска*

Сцісла кажучы, сэнс у тым, каб у момант спакусы не проста ёй не паддавацца, але рабіць супрацьлеглае таму, да чаго нас хоча схіліць "вораг чалавека", як называе св. Ігнацый злога духа – спакусніка. Напрыклад, калі падчас малітвы прыходзіць жаданне скараціць час, адведзены на яе (бо "цяжка ідзе", здаецца, што нічога не адбываецца і што "я проста трачу час"...), тады трэба не толькі прысвяціць камунікацыі з Богам запланаваны перыяд, але і дадаць яшчэ некалькі хвілін (гл. Духоўныя Практыкаванні, 12). Гэты прынцып можна прымяняць у самых розных сферах жыцця, адпаведна яго дастасоўваючы. Паглядзім разам, як метад супрацьдзеяння можа стаць для нас карысным.

**Вельмі часта на споведзі святар чуе ад пенітэнта: "Спавядаюся ў адным і тым жа ўвесь час, нічога не змяняецца на лепшае".**

Найхутчэй праблема ў тым, што нашыя пастановы або выглядаюць вельмі агульна ("буду старацца быць лепшым"), або мы вырашаем чагосьці не рабіць, не ўяўляючы, што хочам, каб у нашым жыцці з'явілася замест таго ці іншага граху. Тут якраз нам прыдасца прынцып agere contra: нашмат больш дзейснай будзе пастанова, калі мы будзем мець перад вачыма супрацьлеглы спосаб дзеяння, які заменіць той, ад каторага хочам пазбавіцца. Напрыклад, калі я часта асуджаю іншых, кожны раз заўважаючы такую думку супраць кагосьці, буду памятаць, каб прамовіць кароткую малітву за гэту асобу: "Пане, блаславі яе, дай ёй тую ласку, у якой яна мае патрэбу, пакажы ёй шлях да Цябе". Таму, хто мае схільнасць да "злога языка", варта практыкавацца ў тым, каб казаць, наадварот, добрыя рэчы пра іншых. Калі ж надта лёгка паддаюся імпульсу гневу і "зрываюся" на іншых, тады варта ўявіць узор цярплівасці і стрыманасці і перш чым сказаць штосьці, пра што буду шкадаваць, палічыць у думках да дзесяці (або і большай лічбы). Пастанаўляючы такім чынам працаваць над сабой, кожны дзень можам адзначаць, у якіх сітуацыях атрымалася прымяніць новы спосаб дзеяння, а ў якіх – не. Такую практыку прапануе св. Ігнацый, называючы яе "частковым рахункам сумлення".

Спакусы ў нашым жыцці непазбежныя (нават Езус быў спакушаны!) і найчасцей датычаць сфер, якія хрысціянская традыцыя называе "сямю галоўнымі грахамі": пыха, хцівасць, зайздрасць, гнеў, распуста, неўмеркаванасць у ежы і піцці, лянота. Большасць з нас добра памятае гэты спіс, які дапамагае нам у падрыхтоўцы да споведзі. Але цікава, ці таксама лёгка кожны з нас мог бы пералічыць супрацьлеглыя гэтым заганам цноты: пакора, шчодрасць, удзячнасць, лагоднасць, чысціня, стрыманасць, працавітасць... Варта памятаць і гэтыя якасці, да якіх кожны хрысціянін павінен імкнуцца, разлічваючы на ласку Духа Святога і стараючыся супрацоўнічаць з ёй. Калі памятаць, што ў момант спакушэння я не адзін, а са мной Бог, тады спакуса становіцца месцам росту, а не балючага падзення і сораму. Такім чынам мы напружваем нашыя "духоўныя мышцы", практыкуемся, як гэта робяць спартсмены, узаемадзейнічаючы сваім целам з нагрузкамі. Нават калі не атрымліваецца дасканала, не застаёмся ляжаць і паддавацца адчаю ці маркоце, а ўстаём і спрабуем зноў.

**Метад малых крокаў**

Часта ўнас не атрымліваецца штосьці змяняць на лепшае ў сабе таму, што мы ставім для сябе надта высокія патрабаванні і чакаем хуткіх вынікаў. Замест гэтага варта навучыцца мастацтву "малых крокаў": не вырашаць "больш ніколі не буду грашыць", бо гэта цалкам нерэалістычна, а глядзець дакладна, якія простыя дзеянні я магу зрабіць у канкрэтнай сферы свайго жыцця, каб паволі ўцелаўляць новы спосаб паводзінаў. Напрыклад, калі заўважаю, што зашмат часу праводжу ў тэлефоне, як альтэрнатыва падрыхтую кнігу, каторую буду чытаць на працягу пэўнага часу, перш чым адкрываць браўзер ці стужку сацсеткі. Простае ўсведамленне таго, што ў мяне ёсць альтэрнатыва, магчымасць зрабіць інакш, ужо з'яўляецца першым крокам, каб не быць закладнікамі нашага звычайнага шкоднага спосабу дзеяння. Варта памятаць, што найбольш цяжкім з'яўляецца пачатак, а пасля становіцца лягчэй. Таму часам важна проста механічна зрабіць пэўныя дзеянні: узяць у рукі кнігу, адкласці тэлефон, уключыўшы ціхі рэжым... Аднак калі паўгадзіны з кнігай пакуль для мяне зашмат, то часова магу панізіць планку да пятнаццаці хвілін, але паволі павялічваць час, адведзены на чытанне. І найлепей, калі гэтай кнігай будзе Святое Пісанне!

Найчасцей у нашым жыцці ёсць пэўная сфера, у якой існуе найбольшая патрэба, каб штосьці змяняць. Менавіта там і варта брацца за духоўную працу. Св. Ігнацый кажа, што д'ябал – хітры вораг, які добра ведае нашыя слабыя месцы і "б'е" дакладна па іх. Таму нам у першую чаргу трэба ўзмацняць сваю абарону і не дазваляць, каб надта лёгка мы былі пераможаныя.

Ва ўсім гэтым будзем памятаць, што гаворка не проста пра нашыя ўласныя намаганні: Бог заўсёды гатовы нам дапамагчы ў нашым змаганні, калі толькі мы са свайго боку робім тое, што адпавядае нашым магчымасцям. Пан нашмат больш цярплівы да нас, чым мы ўмеем быць з самімі сабой, і ніколі не адмаўляецца падтрымліваць сваіх умілаваных дзяцей, каторыя імкнуцца да святасці. Цалкам магчыма, што менавіта адносна вобразу Бога і нашых стасункаў з Ім нам трэба прымяняць інструмент agere contra: адмаўляцца ад ўяўлення пра Яго як далёкага, абыякавага, строгага, які асуджае, а прасіць Духа Святога, каб адкрыў нам твар Айца пяшчотнага, Які нас любіць. Каб наша сувязь з Ім не ўспрымалася праз прызму абавязкаў, а толькі як захапляльнае падарожжа, што доўжыцца ўсё жыццё.

# Падрэ Піа

**23 верасня Каталіцкі Касцёл адзначае ўспамін святога падрэ Піа. У новым тэсце "Каталіцкага веснiка" мы прапануем высветліць, ці добра Вы знаёмыя з асобаю святога Піа – аднаго з найбольш вядомых каталіцкіх містыкаў XX ст. Праверце свае веды, прайдзіце тэст!**

**1 У якім стагоддзі жыў айцец Піа?**



**А.** XII ст.
**Б.** XVII
**В.** XX ст.

**2 У якім горадзе нарадзіўся падрэ Піа?**



**А.** Сан-Джавані Ратонда
**Б.** Асізі
**В.** П'етрэльчына

**3 Якое імя далі бацькі падрэ Піа пры Хросце?**



**А.** Францішак
**Б.** Дамінік
**В.** Леон

**4 Да якога ордэну належыў падрэ Піа?**



**А.** Кармеліты босыя
**Б.** Браты-бернардынцы
**В.** Браты-капуцыны

**5 Які незвычайны дар ад Госпада меў падрэ Піа?**



**А.** Ніколі не спаў
**Б.** Меў стыгматы
**В.** Бачыў Хрыста на яве і маляваў Яго партрэт

**6 Якую паслугу ў якасці святара найбольш часта выконваў падрэ Піа?**



**А.** Амаль увесь час спавядаў
**Б.** Праводзіў душпастырства моладзі
**В.** Разносіў па хворых віятык

**7 Дзякуючы ініцыятыве падрэ Піа ў Сан-Джавані Ратонда быў пабудаваны:**



**А.** Дом палёгкі ў цярпенні (шпіталь)
**Б.** Дзіцячы дом, якім апекаваліся браты-капуцыны
**В.** Дом пілігрыма

**8 Які Папа Рымскі кананізаваў падрэ Піа?**



**А.** Папа Павел VI
**Б.** Ян Павел II
**В.** Папа Францішак

**9 У якім горадзе зараз спачывае цела падрэ Піа?**



**А.** Рым
**Б.** П'етральчына
**В.** Сан-Джавані Ратонда

**10 У якім з названых гарадоў Беларусі існуе касцёл пад тытулам падрэ Піа?**



**А.** Мінск
**Б.** Івянец
**В.** Маладзечна

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

# Падрэ Піа – святар са стыгматамі

**23 верасня Каталіцкі Касцёл успамінае падрэ Піа – адзінага вядомага ў гісторыі Касцёла святара, які меў на сваім целе раны Хрыста, стыгматы. Сёння мы хочам прыгадаць некаторыя моманты з яго жыцця.**



### Паслядоўнік св. Францішка

Марыя і Грацыа Фарджонэ назвалі свайго сына Францішак у гонар св. Францішка Асізскага. Пасля ён стаў падобны да свайго святога заступніка, нават атрымаў дар стыгматаў – адпаведных ран Езуса Хрыста. Францішак быў адным з васьмі дзяцей у беднай вясковай сям'і. Яго бацька двойчы шукаў працу ў Амерыцы, імкнучыся зарабіць на ўтрыманне сям'і.

Францішак быў вельмі набожным дзіцём. Яго з дзяцінства вабіла святарства. Спачатку хлопчыка навучалі прыватныя настаўнікі, потым ён пачаў хадзіць у школу, у якой займаліся капуцыны. У юнацкім узросце Францішак не вызначаўся моцным здароўем: яго, у прыватнасці, часта мучылі загадкавыя прыступы ліхаманкі. Нашмат пазней, ужо прынёсшы зарок паслухмянасці, ён прызнаўся, што вельмі рана адкрыў сваё пакліканне. Але ён адчуваў і цягу да спакусаў свецкага жыцця. Душа яго не раз станавілася арэнай жорсткай барацьбы.

Айцец Піа пісаў, што нават па сканчэнні дваццаці гадоў пасля ўспамінаў пра гэтую духоўную барацьбу ў ягоных жылах стыне кроў. Але Францішку было дадзена перажыць бачанне, якое дапамагло яму здзейсніць такі незвычайна цяжкі выбар. Расстанне з сям'ёй стала цяжкім выпрабаваннем, але Езус і Марыя суцешылі яго, пераконваючы ў Сваёй апецы. Францішак у шаснаццаць гадоў пачаў навіцыят у ордэне капуцынаў – адным з трох незалежных адгалінаванняў ордэна францішканцаў. У манаскі габіт ён апрануўся ў 1902 годзе.

### Новае імя – айцец Піа

Пасвячэнне ў сан святара Францішак прыняў у 1910 годзе пасля сямі гадоў вучобы. З тых часоў быў вядомы як айцец Піа.

Праз шэсць гадоў, як і многіх іншых італьянскіх святароў, яго забралі ў войска. Там манах-капуцын захварэў. Лекары з вайсковага шпіталя, у які ён патрапіў, былі ўражаныя станам яго здароўя. Звычайныя тэрмометры трэскаліся, настолькі высокай у яго была тэмпература (!) У рэшце рэшт лекары прызналі яго непрыдатным да ваеннай службы і паставілі яму дыягназ – сухоты. Духоўныя ўлады ордэна палічылі, што айцец Піа блізкі да смерці, і адправілі яго ў манастыр у Сан-Джавані Ратонда. Але ён там пражыў нашмат больш, чым тыя некалькі месяцаў, якія яму прадказвалі. Ён правёў у манастыры пяцьдзясят адзін год.

### Стыгматы – узнагарода ад Госпада?

Калі 20 верасня 1918 года айцец Піа на каленях маліўся перад вялікім распяццем, у яго з'явіліся выразна бачныя стыгматы – раны на руках, нагах і ў баку. Адзін з братоў якраз праходзіў міма па калідоры і заўважыў яго, які ляжаў без прытомнасці ў капліцы на каменнай падлозе. Ён паведаміў пра гэта гвардыяну, і яны разам перанеслі айца Піа ў яго келлю. Неадкладна праінфармавалі пра здарэнне генерала ордэна. Ён жа загадаў сфатаграфаваць такія загадкавыя раны і паклікаць лекара, каб той агледзеў іх. Лекар, які аглядаў айца Піа, не змог лагічна растлумачыць паходжання гэтых ран. Звычайна раны гояцца ці гнаяцца, і тады можа здарыцца заражэнне крыві. У выпадку з айцом Піа гэтае правіла не пацвердзілася. Калі стыгматы з'явіліся ўпершыню, быў зафіксаваны інтэнсіўны крывацёк. На працягу наступных пяцідзесяці гадоў кроў сачылася пастаянна, нават тады, калі ён паміраў, у 1968 годзе, гэта значыць, акурат па сканчэнні пяцідзесяці гадоў.

Улады Касцёла, сутыкнуўшыся з такімі феноменам, як стыгматы айца Піа, паставіліся вельмі асцярожна да названай з'явы. Падобныя феномены старанна даследуюцца, каб людзі не шукалі цудаў у чымсьці, што было б вынікам самых натуральных з'яў. Зыходзячы з такой прадбачлівасці Касцёла, справа айца Піа выклікала шэраг засцярог.

### Паслухмянасць як адметная рыса

Падрэ Піа заўсёды згаджаўся з любымі патрабаваннямі духоўных уладаў. Аднойчы яму нават забаранілі паказваць стыгматы іншым людзям, а вернікам не дазвалялі яго бачыць. У той час яму была неабходная аперацыя па выдаленні жоўцевага пухіра. Духоўныя ўлады паклапаціліся, каб яна прайшла ў манастыры, дзе адно з памяшканняў ператварылі ў аперацыйную.

Капуцын у гэты дзень устаў рана і зрабіў усё, што ўваходзіла ў яго абавязкі, пасля чаго зайшоў у гэты маленькі часовы шпіталь і лёг на аперацыйны стол. Ён спакойна адмовіўся ад наркозу. Калі шакаваны лекар спытаў пра прычыну падобнага рашэння, айцец Піа патлумачыў, што асцерагаецца, каб хірург не выкарыстаў гэтую магчымасць і не падвергнуў стыгматы дасканаламу агляду, бо манаху забаранілі іх паказваць. Айцец Піа ў духу безумоўнай паслухмянасці настолькі дакладна выконваў загады духоўных уладаў, што адважыўся нават перанесці такую сур'ёзную аперацыю без наркозу. Дзве гадзіны ён трываў без слова скаргі. Слёзы ручаём цяклі па яго твары. Прысутныя чулі, як ён казаў: "Езусе, даруй мне, што не ведаю, як трэба пераносіць пакуты". Праз некаторы час святар ад болю страціў прытомнасць, і тады лекар агледзеў стыгматы.

### Вялікі спаведнік Касцёла

Стыгматы не былі адзіным містычным перажываннем, якое сустрэла айца Піа. Кроў, што цякла з ран, сваім пахам, як гэта апісвалі многія, нагадвала духі ці кветкі. Прыпісвалі яму і дар білакацыі (адначасовага знаходжання ў двух месцах). Айцец Піа мог зазірнуць у сэрца грэшніка. А ахвотных паспавядацца ў яго былі натоўпы!

Ён штодня адводзіў на споведзь ад дзесяці да дванаццаці гадзін. Многія людзі сцвярджалі, што айцец паведамляў ім іх таямніцы, перш чым яны паспявалі адкрыць рот. Казаў пра тое, чаго не мог ведаць. Часам адмаўляўся даць адпушчэнне грахоў чалавеку, калі лічыў, што той недастаткова каіцца. А часам цяжка пакутаваў за чужыя грахі. Часта здаралася, што, калі айцец Піа даваў адпушчэнне грахоў, твар яго выказваў велізарную боль. Нярэдка пры гэтым чалавек, які толькі што вызваліўся ад цяжкіх грахоў, адчуваў вялікую палёгку.

Айцец Піа выкарыстоўваў споведзь, каб наблізіць да Бога як грэшнікаў, так і людзей набожных. Ён ведаў, калі неабходна каго-небудзь суцешыць або падбадзёрыць. Адзін расейскі князь, які потым сам уступіў у манаскі ордэн, так апісаў сваю сустрэчу з айцом Піа: "Усё, што ён казаў, было прызначана толькі мне. Не было ніводнай фразы, ні адной парады, якія б маглі быць ужытыя для кожнага. Не было ў яго словах ні ценю празмернай саладжавасці, ні красамоўства, ні надакучлівай фанабэрыстасці".

### Справа малітвы

Малітвы айца-капуцына былі вельмі эфектыўныя. У 1914 годзе ён так апісаў сваё перажыванне малітвы: "Я не пачынаю маліцца да таго часу, пакуль майго сэрца не перапоўніць агонь любові. Гэты агонь не нагадвае нічога з таго, што гараць на нашай нікчэмнай зямлі. Гэта салодкае і далікатнае полымя, якое паглынае, каб не балела. Яно такое салодкае і далікатнае, што задавальняе і насычае мой дух у найвышэйшай ступені. Добры Божа! Самым выдатным для мяне з'яўляецца той факт, што, падобна, я гэтага ўсяго не змагу зразумець, пакуль не апынуся ў небе ... "

Да канца саракавых і пачатку пяцідзясятых гадоў у адказ на шматразоў паўтораны заклік папы Пія XII, каб вернікі маліліся ў групах, айцец Піа ўзначаліў стварэнне шматлікіх групаў малітвы – як у Італіі, так і за межамі гэтай краіны. Нягледзячы на тое, што ён імі кіраваў, айцец Піа пастаянна патрабаваў ад іх паслухмянасці мясцовым духоўным уладам. Ён імкнуўся да таго, каб у малітоўныя групы ўваходзілі і дарослыя, і дзеці. У 1968 годзе было ўжо 726 такіх груп, якія працягваюць існаваць амаль у дваццаці краінах і якія налічваюць шэсцьдзесят восем тысяч чальцоў. 31 ліпеня 1968 года Апостальскі Пасад прызначыў першага генеральнага апекуна групаў малітвы.

### Любоў да Эўхарыстыі

Любоў да Эўхарыстыі гарэла ў сэрцы айца Піа як нязгаснае полымя. Аднойчы ён напісаў, што калі прымае Езуса ў Святым Сакраманце, то гэта толькі ўзмацняе яго голад і прагу Бога. Ён казаў: "Зямлі было б лягчэй існаваць без сонца, чым без Святой Імшы". Людзі, якія прымалі ўдзел у Імшы, дзе служыў айцец Піа (а яго святыя Імшы працягваліся па паўтары гадзіны і нават даўжэй), выходзілі са свядомасцю, што размаўлялі са святым.

### Выдатнае пачуццё гумару

Айцец Піа меў выдатнае пачуццё гумару і часта рабіў дасціпныя заўвагі, гуляючы мнагазначнымі словамі або гутарковымі выразамі. Нават знаходзячыся ў спавядальні, часам адчытваў грэшніка нечаканай колкай заўвагай. Ён часта строга асуджаў іншых, але не забываў пра мяккасць і добразычлівасць.

Яшчэ пры жыцці мана-ха-капуцына людзі нават у размове з ім закранаці пытанне пра яго магчымую кананізацыю. Аднойчы, калі гэтая тэма была закранутая, ён спаслаўся на папулярнае ў паўночнай Італіі сцвярджэнне, што жыхары паўднёвай часткі гэтай краіны – "макароннікі". Прымаючы бок паўднёўцаў, ён сказаў: "Калі мяне зробяць святым, то кожны, хто будзе шукаць майго заступніцтва, павінен будзе прынесці мне скрынку макаронаў. За кожную скрыню гарантую выкананне просьбы".

Падрэ Піа памёр 23 верасня 1968 года ва ўзросце васьмідзесяці аднаго года. На яго пахаванне прыбыло каля ста тысяч вернікаў. Працэс па справе аб яго беатыфікацыі быў пачаты ў Рыме ў 1973 годзе. 2 мая 1999 года Папа Ян Павел II абвясціў айца Піа блаславёным, а 16 чэрвеня 2002 года – святым.

### Бачанне душ з Чыстца

Аднойчы ўвечары падрэ Піа знаходзіўся на першым паверсе манастыра. Ён быў адзін і толькі што лёг у ложак, як раптоўна перад ім з'явіўся стары чалавек, апрануты ў чорны плашч. Здзіўлены айцец Піа падняўся і спытаў у яго, хто ён і чаго хоча. Незнаёмы адказаў, што ён – душа з Чыстца. "Мяне клічуць П'етра ды Маўра. Я загінуў у пажары 18 верасня 1908 г. у гэтым манастыры, пераўтвораным пасля экспрапрыяцыі ў прытулак для жабракоў. Аднойчы ўвечары я заснуў з непатушанай папяросай, лежачы на матрацы з саломы, і згарэў. Прыбываю з Чыстца: Бог дазволіў мне прасіць Вас адправіць за мяне ранішнюю Імшу. Дзякуючы адной Імшы я змагу патрапіць у Рай". Айцец Піа паабяцаў, што адслужыць за яго Імшу. Вось словы самога а. Піа: "Я папрасіў праводзіць мяне да

⇒

⇐ дзвярэй. Я зразумеў, што размаўляю з мёртвым, паколькі, калі мы выйшлі, чалавек побач са мной раптоўна знік. Я мушу прызнаць, што быў даволі напалоханы. Настаяцель манастыра, заўважыўшы маю нервовасць. Патлумачыўшы яму, што адбылося, я папрасіў "дазволу канцэлебраваць Імшу за душу, якая памірае". Праз некалькі дзён айцец-настаяцель вырашыў праверыць інфармацыю і атрымаў дазвол прагледзець рэгістрацыйныя кнігі пасёлка Сан-Джавані Ратонда з 1908 года. Гісторыя а. Піа аказалася праўдзівай. У хроніках смяротных выпадкаў за верасень айцец-настаяцель знайшоў імя, прозвішча і прычыну смерці згаданага айцом Піа чалавека: "18 верасня ў пажары ў прытулку загінуў П'етра ды Маўра, сын нябожчыка Мікалая".

**Аздараўленні з дапамогай падрэ Піа**

У 1919 г. адбыўся адзін незвычайны выпадак. У Сан-Джавані Ратонда прыбыў 14-гадовы падлетак Антоніа. У чатырохгадовым узросце ён перахварэў на сыпны тыф. У выніку яго цела дэфармавалася, спераду і ззаду ўтварыліся два вялікія гарбы. Падрэ Піа спавядаў хлопца і дакрануўся да яго сваімі рукамі са стыгматамі. Хлопчык устаў з каленяў, выпрастаўшыся як ні ў чым не бывала. Гарбы зніклі.

***

Аповед аднаго чалавека. "Маё калена апухла і вельмі балела. Гэта працягвалася некалькі дзён. Доктар сказаў, што становішча сур'ёзнае, і скіраваў мяне на лячэнне. Перад тым, як пачаць лячэнне, я паехаў да айца Піа. Пасля споведзі я расказаў яму пра захворванне калена і прасіў маліцца за мяне. Збіраючыся з'язджаць з Сан-Джавані Ратонда, я ўжо не адчуваў болі. Агледзеўшы калена, заўважыў, што пухліна знікла. Замест таго, каб з'ехаць, я неадкладна вярнуўся да падрэ Піа са словамі падзякі. Ён адказаў: "Ты не мне павінен дзякаваць, а Госпаду!" Потым дадаў з усмешкай: "Скажы свайму доктару, што ты зрабіў прапісаныя ўколы".



**Малітва святога айца Піа**

*Пабудзь са мной, Пане,*
*бо мне Твая прысутнасць неабходна,*
*каб не забываць пра Цябе.*

*Ты ж ведаеш, як лёгка я пакідаю Цябе.*
*Застанься са мной, Пане, бо я слабы.*
*Мне патрэбна Твая сіла, каб не ўпасці.*

*Без цябе маё імкненне згасае.*
*Пабудзь са мной, Пане,*
*бо толькі Ты для мяне – святло.*

*Пакажы мне волю Тваю,*
*каб пачуў я Твой голас і пайшоў за ім.*

*Будзь са мной, каб я быў верны Табе,*
*мая бедная душа прагне стаць для Цябе*
*месцам суцяшэння.*

*Пабудзь са мной, Пане,*
*бо дзень ужо хіліцца да захаду,*
*становіцца позна. Жыццё праходзіць,*
*і набліжаецца вечнасць.*

*Трэба сілы набрацца, каб не прытаміцца ў дарозе.*
*Пабудзь са мной, Пане,*
*бо Ты мне патрэбны.*

*Так, застанься са мной,*
*бо толькі Цябе я шукаю, Тваёй любові,*
*Тваёй ласкі, Твайго Духа. Люблю Цябе, Пане,*
*і адной толькі ўзнагароды прашу:*
*любіць Цябе мацней і мацней!*
*Амэн.*

*Падрыхтавала* **Вікторыя Арфеева**

# Детская игрушка Huggy Wuggy. Комментарий экзорциста



Комментирует кс. Николай Тихонович, католический священник, экзорцист Витебской епархии.

*Чтобы посмотреть видео записанного комментария, отсканируйте своим смартфоном QR-код:*



# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**

- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

## Где нас найти?

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*10 жніўня адзначыў Дзень нараджэння наш **ксёндз Вячаслаў Адамовіч.***

*Шаноўны ксёндз Вячаслаў! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды і жадаем неабходнай Божай ласкі, моцнага здароўя, здзяйснення мараў, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач! Няхай Езус Хрыстус баслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая ахінае Сваёй любоўю і апекай, Святы Дух хай дапамагае ў выкананні душпастырскай паслугі і шчодра адорвае ласкамі!*

*Выказваем Вам вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве! Нізкі паклон Вам, шаноўны ксёндз Вячаслаў, за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць!*

***З найлепшымі пажаданнямі,***
***вернікі Ідолтаўскай парафіі***

*Паважанаму **ксяндзу Вячаславу Адамовічу** з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, зычым, каб усмешка заўсёды была на твары, а кожны дзень паслугі быў напоўнены радасцю і супакоем!*

*Няхай святы заступнік штодзённа Вам спадарожнічае ў дарозе да святасці і да людскіх сэрцаў, Усемагутны Бог хай ахінае сваім блаславеннем, а Найсвяцейшая Маці нястомна апякуецца, прытуляе да Сябе і абараняе ад усякага зла!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю,***
***парафіяне з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня (Мёрскі раён)***

*Паважанаму **ксяндзу Вячаславу Адамовічу** з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначыў 10 жніўня, дасылаем найлепшыя пажаданні: патрэбных Божых ласкаў, моцнага здароўя і радасці! Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславіць кожны Ваш дзень і адорвае здароўем на сто гадоў жыцця! Няхай Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух, шчодры на дары, дапамагае годна выконваць паслугу! Няхай Ваша сэрца будзе заўсёды напоўнена супакоем і любоўю, а заўжды побач будуць добрыя і шчырыя людзі!*

***Касцельны камітэт і вернікі***
***з парафіі Маці Божай Фаціімскай у Павяцці***

### Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз Уладзімір**! Ад усяго сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця, непагаснага аптымізму, душэўнага супакою. Мудрасці і вытрываласці ў пастырскім служэнні. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваёй апекай.*

***Парафіяне касцёла св. Казіміра (Лепель)***

### Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз-пробашч Віталь Бяленік**! 1 верасня Вы будзеце адзначаць Дзень нараджэння!*

*У Ваш дзень прыміце нашы шчырыя, цёплыя віншаванні. Няхай Анёл-Ахоўнік заўсёды ідзе за Вамі і закрывае сваімі крыламі ад усіх небяспек і бедаў, няхай Ваша сэрца застаецца такім жа чулым, а Вашы казанні знаходзяць водгук у сэрцах іншых людзей! Жадаем Вам доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя і Божай ласкі!*

*У жыцці давяраючы Богу,*
*Прыносіце Вы ўсім дабро.*
*Ваш выбар – цяжкая дарога,*
*Што дае людзям святло.*
*Вам грэшнік з адкрытай душою*
*Нясе свае радасць і сум.*
*Парадай, размовай, спакоем*
*Ратуеце ад цяжкіх дум.*
*Няхай у Ваш Дзень нараджэння*
*Бласлявіць добры Бог!*
*Дасць Вам мудрасці, цярпення,*
*Доўгіх і прамых дарог.*
*Будзьце радасным, здаровым,*
*Моцным целам і душой.*
*Вы дзяліцесь Божым словам*
*І вядзіце за сабой!*

***З павагай, вернікі парафіі***
***Найсвяцейшага Сэрца Езуса (Падсвілле)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Сардэчна віншуем з Днём нараджэння нашага добразычлівага, мудрага душпастыра **ксяндза Кшыштафа Сілкоўскага**! Жадаем яму моцнага здароўя, душэўнага спакою і толькі радасных хвілін! Няхай Бог адорвае патрэбнымі ласкамі, а Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага жыцця, дарагі ойча! У сваіх малітвах просім у Усявышняга для паважанага святара заступніцтва святога Кшыштафа, апекі Маці Божай. Дзякуем за мудрасць, за цярплівасць, за шчырую малітву, за чулае сэрца, за ўмацаванне нас у веры і любові да Бога!*

***Парафіяне з Пастаў***



### Хвала Хрысту!



*Ад імя парафіяльнай супольнасці дасылаем сардэчныя віншаванні для нашага шаноўнага **ксяндза-дэкана Андрэя Куліка** з нагоды Дня нараджэння (26 жніўня)!*

*Жадаем Божага блаславення, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога, трываласці на святарскім шляху! Ад усяго сэрца дзякуем за ўдзяленне святых сакрамантаў, за Вашу любоў, за парады і клопат, за нялёгкую працу ў нашай святыні! Таксама жадаем добрага здароўя, здзяйснення мараў, моцы, энергіі і цярплівасці, каб весці людзей па дарозе да збаўлення!*

***Вернікі мёрскага касцёла Унебаўзяцця НПМ***
***і св. Язафата Кунцэвіча***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*21 жніўня наш **ксёндз Дзмітрый Рацько** адзначае Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ойча! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем ад усяго сэрца трывалага здароўя, мудрасці, супакою ў душы. Хай Маці Божая ахінае Вас Сваёй ласкай, а Дух Святы дапамагае ў служэнні Богу, людзям і ўсяму Святому Касцёлу!*

***Вернікі касцёла бл. Юрыя Матулевіча***
***(м. Ветрына)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*У 2005 годзе ў нашу парафію прыехала сястра Канстанцыя. З таго часу актывізавалася работа з дзецьмі і моладдзю. Сястра цікава вядзе ўрокі рэлігіі і заняткі ў "Святліцы", наведвае пастаяльцаў у аддзяленні кругласутачнага знаходжання, стварае цудоўныя дэкарацыі да розных урачыстасцяў.*

*Дарагая сястра Канстанцыя! Дзякуй Вам за тое, што сваімі словамі і справамі Вы вучыце нас жыць у духу міласэрнасці, за Вашыя адкрытасць і спагаднасць! Няхай Маці Божая ахінае Вас мацярынскім плашчом, заўсёды будзе нагода для ўсмешкі, бо Ваша ўсмешка робіць гэты свет лепшым!*

***Парафіяне з Пастаў***

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# “Избранные”. Когда Иисус приходит в мир сериала

**С 2019 года один сериал, The Chosen (“Избранные”), помогает нам погрузиться в мир Евангелий, и два сезона (всего их запланировано семь) уже были показаны по всему миру. Сериал снят в христианском и экуменическом духе. Он обладает некоторыми достоинствами: Иисус изображен очень человечно и правдоподобно, хорошо прописаны характеры и жизненные обстоятельства учеников. Тем не менее некоторые решения постановщиков вызывают вопросы богословского характера.**



За последние двадцать лет телесериалы стали одним из самых известных и инновационных аудиовизуальных жанров. Поэтому не стоит удивляться, что со временем появилась идея (хорошая) привести в эту сферу историю жизни Иисуса. Сериал называется The Chosen (“Избранные”). В прокат вышли уже два сезона: первый – в 2019 году (апрель-ноябрь), второй – в 2021 году (апрель-июль). Среди действительно значимых особенностей сериала можно назвать тот факт, что проект совершенно независим от крупных студий и финансируется полностью за счет краудфандинга. Также было решено сделать его абсолютно доступным по всему миру.

Сериал задуман в четких рамках христианства с намеренно экуменическим подходом к материалу. Автор сценария и режиссер Даллас Дженкинс – протестант, роль же Иисуса исполняет Джонатан Руми, католик. Частный французский канал (C8) транслировал первый сезон в период с 20 по 27 декабря 2021 года. Показу во Франции содействовали как католические, так и протестантские круги, видя в нем возможности для евангелизации.

**Сильные стороны сериала**

Говоря вкратце, написано добротно, исполнено замечательно, поставлено прекрасно, выбор актеров логичный. Так, можно выделить Марию Магдалину, Никодима и Матфея, но, безусловно, повествование вращается вокруг Иисуса. В нем преобладает человечность, Он умеет играть с детьми (1-й сезон, серия 3), смеяться, шутить и искусно вручную работать по дереву, будучи плотником по профессии. По словам Криса Де Вилля, “Джонатан Руми в The Chosen представляет Иисуса как того, с кем тебе по-настоящему понравилось бы проводить время, Он соединяет в себе подчеркнутое Божественное достоинство с чарующим теплом. Он шутит; танцует на праздниках”. Сострадательный и в то же время понимающий характер Иисуса придает образу достоверность. Иисусу удается совместить подлинную суровость и естественный авторитет с обезоруживающей, искренней улыбкой. Он очень человечный, но при этом и мягкий, и непоколебимый, что проявляется в естественном взаимодействии со всеми.

Определённое преимущество имеет выбор жанра – теленовелла. Он позволяет тщательно прорисовать героев, дать им глубину, которой невозможно достигнуть в рамках какого-либо отдельного фильма.

В первом сезоне Иисус несколько отодвинут на второй план, и это хороший ход. О Нем говорят, Он появляется мимоходом. На уровне героев действие начинается с появления на экране Магдалины и, что еще оригинальнее, Никодима (один из самых привлекательных персонажей, соответствующий тогдашней обстановке), что, на наш взгляд, очень мудрое решение, учитывая значимость обоих в финале евангельского повествования. Время от времени появляется кто-нибудь из апостолов, раскрывая свой характер и историю жизни. Мы видим их сомнения, непонимание, ревность и т. п. В определенные моменты мы замечаем их воодушевление и эмоции, видим, как потихоньку между ними укрепляется солидарность, даже когда они по-прежнему не в состоянии справиться с событиями и не могут до конца понять Учителя.

Благодаря сериалу зрителям намного легче поставить себя на место членов общины, собравшейся вокруг Иисуса, чем при просмотре классических фильмов, где все действие неизменно сосредоточено на Иисусе. И это производит положительный эффект: апостолы и женщины, следовавшие за Иисусом, были такими же, как и мы, со своими сложностями, нелепостями и даже падениями, что не мешало им следовать за Ним, пусть даже не понимая Его до конца.

Постановщики ясно показывают вымышленную подоплеку поведения персонажей, некоторых диалогов и ситуаций. А в рекламу первого сезона они к тому же включили дисклеймер: “Приглашаем зрителей читать Евангелия”.

Хотя исполнение не всегда выдержано на одном уровне, выразительность некоторых сцен остается в памяти. Например, изгнание бесов из Марии Магдалины или как в немом видеоряду продолжительностью девять минут представлена жизнь расслабленного у источника Вифезда (ср. Ин 5, 1-18) – от происшествия до встречи с Иисусом. Так мы немного лучше понимаем, каково было находиться в таком положении 38 лет, как это событие привело несчастного к чудовищной изоляции и умалило его человеческое достоинство и надежду.

Центральная идея – написать фикшн, в котором основные евангельские истории переплелись бы с тканью вымысла, имеет право на существование и помогает достовернее показать человеческие качества как Иисуса, так и других персонажей. Как говорит Крис Де Вилль, “с точки зрения христианина и критика, сериал The Chosen хорошо поставлен и привлекает, как и многие прочие драмы, транслированные в сети”.

**Некоторые основные вопросы**

Начнем с апостолов, ведь они появляются во многих эпизодах обоих сезонов, что логично. Первые четыре апостола, рыбаки, изображены весьма романтично. Они представлены как мелкие рыбаки-ремесленники, хотя, несомненно, будущие апостолы были рыбаками достаточно высокого уровня (по крайней мере, сыновья Зеведеевы). Но ключевой момент: из сюжета практически вычеркнуты отношения с Иоанном Крестителем – как со стороны апостолов, так и со стороны Иисуса. Все Евангелия сходятся в том, что общественное служение Иисуса началось с крещения у Крестителя. Здесь же сцена крещения отсутствует. Иисус мало говорит об Иоанне Крестителе, а Петр и Андрей не кажутся по-настоящему вдохновленными Предтечей евреями. Но нельзя понять Иисуса вне Его отношений с Иоанном Крестителем. Мы считаем, что это странное решение.

Зачем делать из Симона (пока еще не Петра) неблагочестивого коллаборациониста с римлянами? А что сказать о Матфее? Еще более невероятной кажется идея, что юноша с синдромом Аспергера и нелюдимый мытарь – один и тот же человек. С другой стороны, признаем: актер великолепен, персонаж очень обаятельный, и это действительно большой плюс сериалу.

Обратим внимание и на табличку, которую Матфей повсюду носит с собой. Создается впечатление, что через некоторое время Иисус попросит его записать все Свои слова, а значит, Евангелия – буквальная реконструкция всего, что Иисус сказал и сделал, но это не совсем так. Евангелия – поздняя богословско-экклесиальная обработка рассказов учеников и их устных преданий.

Еще больше удивляет другое: мы знаем, что все Евангелия сходятся в том, что Иисус избрал 12 апостолов в начале Своего общественного служения. Зачем тогда называть число, а затем показывать Иисуса в окружении менее 12 учеников? В финале второго сезона после немалого числа знаков, совершенных Иисусом, уже в начале странствующей миссии апостолов все еще не хватает. Можно понять желание расширить нарративное пространство с тем, чтобы более ярко показать каждого из 12 апостолов, но разве нельзя было это сделать до того, как отправить их в странствующую миссию?

В Евангелиях упомянуты женщины, последовавшие за Иисусом из Галилеи: Мария Магдалина не одинока, ее окружают другие (Сусанна, Иоанна, др.). Конечно, немало чернил извели историки, описывая причины, по которым она пошла за Иисусом, но почему так долго нам показывают лишь ее?

Иисус абсолютно осознает собственную идентичность (в иоанническом духе) и с самого начала объявляет об этом ученикам. Именно так Он вступает в беседу, в которой, упоминая Сына человеческого, добавляет: “Кстати, это Я” (It’s me by the way). Это изумляет, ведь в Евангелиях Иисус никогда об этом не говорит от первого лица. Конечно, можно на секунду улыбнуться, но это противоречит тому, что Иисус отвечает в Евангелиях: “Ты говоришь”. Авторам сценария будет все труднее справиться с этой проблемой по мере повествования. Как создатели сериала смогут показать всю важность исповедания в Кесарии Филипповой, если все уже известно и сказано?

**Заключение**

Мы полагаем, что сериал может быть полезно посмотреть семьям, молодежи и тем, кто готовится стать катехизатором. В нем очень качественно показаны Иисус и апостолы. Есть по-настоящему удачные приёмы, например, эпизод, показывающий Нагорную проповедь: Иисус провозглашает Заповеди Блаженства, смотря с холма на лагерь, разбитый учениками. Зрители, возможно, оценят возвышающие духовно диалоги, обогащенные благожелательным и вызывающим доверие присутствием Иисуса, но нужно критически относиться к переработке в сценарии евангельских текстов, к “качелям” – от чрезмерной верности Евангелию к вымыслам, не подкрепленным историей. Так же следует признать некоторые решения авторов сценария сомнительными (начало миссии в 26 году; решительный отказ от раскрытия роли Иоанна Крестителя в истории жизни Иисуса и апостолов; самоназвание Иисуса “Сыном Человеческим” как первого неоспоримого намека на “Мессию”; начало странствующего общественного служения Иисуса без Двенадцати, и т. д.).

Но в целом сериал может помочь нам погрузиться в Евангелия, и это прекрасно.

***La Civilta Cattolica.ru***

# Як распазнаць голас Бога?

**“Прыслухоўвацца, што кажа Бог”. Як распазнаць, што гэта менавіта Бог гаворыць (дае парады, як жыць, якім шляхам ісці), а не хто іншы?**

**Галіна**



– Шаноўная Галіна! Рэчаіснасць “слухання голасу Бога” належыць да сітуацый, калі асоба ўспрымае як Божую волю тое ці іншае ўласна прынятае рашэнне (напрыклад, у гэтым годзе пайсці ў пілігрымку), нейкую падзею як знак, дадзены ад Бога (напрыклад, не працуе Інтэрнэт – знак, што трэба маліцца, а не праглядаць серыялы). Гэта распазнаванне голасу свайго сумлення, але і таго, што асоба можа пачуць “голас” літаральна (напрыклад, прыватнае, неабавязковае для ўсіх аб’яўленне Езуса сястры Фаўстыне). Аднак як жа праверыць, ці сапраўды гэта голас Бога, а не плод хворага ўяўлення?

Адказ адзін: патрэбны час. Сапраўды,

**пакольkі Бог зайшоў так далёка, што адкрывае Сябе грэшнаму чалавеку, Ён, безумоўна, будзе гаварыць не адзін раз.**

Таксама варта запытацца, наколькі сказанае “голасам Божым” супадае з тым, што кажа нам Божае Аб’яўленне ў Святым Пісанні, ці з навучаннем Касцёла. Бог не можа супярэчыць Сам Сабе.

Асаблівую ўвагу пры распазнаванні і слуханні Усявышняга варта звярнуць на сумленне. Сумленне, будучы “голасам Бога ў нас”, паказвае нам Божую волю. Аднак адразу скажам, што не кожны чалавек клапоціцца пра сваё сумленне. Добра выхаванае сумленне заўсёды павінна быць у згодзе з Яго воляй, выяўленай у запаведзях, жыццё згоднае з якімі ўпарадкоўвае норавы і прынцыпы паводзін асобы.

У саборнай канстытуцыі Gaudium et spes чытаем, што ў глыбіні свайго сумлення чалавек адкрывае закон, які не навязвае сабе, але якому чалавек павінен падпарадкоўвацца і голас якога заўсёды кліча яго любіць і рабіць дабро і пазбягаць зла. Гэты закон гучыць у сэрцы як наказ: рабі тое і пазбягай гэтага.

Пазней, у часы Майсея, гэты закон быў адкрыты і абагульнены ў выглядзе дзесяці запаведзяў. Тым не менш сумленне застаецца непасрэдным і найважнейшым сведкам прачытання дадзенага закону. Пра гэта піша св. Ян Павел ІІ у энцыкліцы *Veritatis splendor*. Паводле яго слоў, сумленне ставіць чалавека перад законам і становіцца “сведкам” у яго справе: сведкам яго вернасці або нявернасці закону, гэта значыць, яго праведнасці або заганы (пар. VS 57).

Звычайна сумленне разглядаецца з пункту гледжання адчытання закону і рашэння адносна нашых дзеянняў. Гэты парадак паказвае нам вядомая евангельская сцэна з “багатым юнаком”. На пытанне, скіраванае да Пана Езуса: “Настаўнік добры, што мне рабіць, каб здабыць жыццё вечнае?” (пар. Мк 10,17) – указваючы на Бога як на адзінае Дабро, Пан Езус загадвае яму выконваць запаведзі. Толькі пасля таго, як юнак сказаў: “Настаўнік, я захаваў усё гэта з маладосці маёй,” – Езус з любоўю паглядзеў на яго і сказаў яму: “Аднаго табе не хапае. Ідзі, прадай усё, што маеш, і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе. Тады прыходзь і ідзі за Мною!” (пар. Мк 10,20).

Адпаведнае разуменне сумлення з’яўляецца толькі ў гэты момант. Да таго часу функцыя сумлення зводзілася да ўказання на тое, што можна, а што нельга. У пэўным сэнсе такая “праца” сумлення зводзіцца да трывогі, папярэджання аб тым, што нешта ідзе не так, адбываецца збочванне з правільнага шляху, пагражае катастрофа. Між тым сапраўднае супрацоўніцтва з сумленнем адбываецца тады, калі ў чалавека ў парадку элементарнай справы, калі ён не грэшнік у сэнсе парушэння Божых запаведзяў. Толькі тады адкрываецца магчымасць сутыкнуцца з тым, чаго “не хапае”, з нашым самым глыбокім недахопам.

Звернем таксама ўвагу на тлумачэнне запаведзяў, дадзеных нам Панам Езусам у так званай “Нагорнай пропаведзі” (Мц 5-7). Не падкрэсліваючы скрупулёзнасці ў выкананні фармальных загадаў і забаронаў, Збаўца указвае на іх глыбіню, звяртае ўвагу на тое, што адбываецца ў сэрцы чалавека. Такім чынам Пан Езус паказвае нам кірунак разважанняў, а гэта значыць, і спосаб фармавання сумлення, дзе чалавек пачуе голас Бога.

Сумленне пазнаюць па пладах. У першую чаргу, сумленне нешта выяўляе. Яго можна параўнаць са святлом, якое пранікае ў пячору праз невялікую шчыліну і асвятляе яе цемру. Таксама яго можна параўнаць з “выключнай цішынёй”, у якой гучаць звычайна нячутныя галасы. Сумленне, можна сказаць, адкрывае чалавечую асобу ў адносінах да свету каштоўнасцяў. Дзякуючы сумленню чалавек “адчувае” сябе, свой сапраўдны стан, “адчувае”, кім ён ёсць, таму што яго адносіны да каштоўнасцяў адбіваюцца на яго быцці, яго існаванні. Бо справа не ў тым, што ты зрабіў ці будзеш рабіць, а ў тым, будучы кім ты робіш тое ці іншае.

### Сумленне выяўляе або віну чалавека, або добрасумленнасць.

Пачуццё віны суправаджае падзенне чалавека. Добрасумленнасць спадарожнічае яго прагрэсу. Найбольш пакутуе сумленне чалавека, калі выяўляе яго віну. Тады “маўчанне сумлення” становіцца “злавесным маўчаннем”, “дакорлівым маўчаннем”. Тады чалавек паступае так, быццам хоча “заглушыць” сваё сумленне, “загаварыць”, уцячы кудысьці ад свайго “голасу”. Ён спрачаецца з уласным сумленнем. Але дарэмна. Сумленне не “спрачаецца” з чалавекам, на ўсе яго “тлумачэнні” і “аргументы”, на ўсе яго “не змог”, “вымушаны”, “не заўважыў” сумленне адказвае вялікім, шчымлівым маўчаннем, з якога расце віна чалавека. Нягледзячы на тое, што яго сумленне “маўчыць”, такое маўчанне мае сэнс. Гэты сэнс можна выказаць біблійным пытаннем Бога з Кнігі Быцця: “Адаме, ты дзе?”

Сумленне праз сваё маўчанне кажа больш, чым мы можам зразумець. Аднак у сваім жыцці чалавек пакліканы канкрэтызаваць і сфармуляваць гэты голас маўчання, інакш свайго роду вербалізацыю. Бо такое маўчанне сумлення нясе абумоўленасць жыццёвым вопытам, унутранымі перажываннямі, страхамі, жаданнямі, жарсцямі, крыўдамі, асацыяцыямі і г. д. Паколькі згодна са хрысціянскай маральнасцю чалавек можа дзейнічаць толькі ў адпаведнасці са сваім разуменнем голасу сумлення, то па пладах гэтага дзеянне можна і пазнаць сапраўдную працу сумлення. У добра выхаваным сумленні (праз якое сапраўды прамаўляе Бог) гэтыя плады аднолькавыя з пладамі Духа Святога, пра што гаворыць св. Павел ва ўрыўку з Паслання да Галатаў (Га 5,22 – А плод Духа: любоў, радасць, згода, доўгацярплівасць, дабрыня, міласэрнасць, вера, лагоднасць, устрыманасць. На такіх няма закона).

Пры слуханні “голасу” сумлення варта задаць пытанне: які плён майго дзеяння? Што ад гэтага застаецца: трывога, страх ці, наадварот, спакой і радасць? Жаданне апраўдацца – гэта велізарная сіла, якая хоча заглушыць усялякую крытыку і асуджэнне, а значыць, і сумленне. Яно мае розныя формы і характар: адмаўленне фактаў, тлумачэнне сваіх намераў, абвінавачванне іншых, хаванне за літарай закона і г.д. Тым не менш, уцёкі заўсёды пазначаныя трывогай, якая часта выяўляецца жаданнем усё растлумачыць. Адначасова адкрытасць на праўду і прызнанне яе шляхам пакорнага пакаяння нараджае спакой, якому нават не замінае ў канчатковым рахунку ўсведамленне ўласнай віны.

Ад сумлення як голасу Бога ў нас належыць адрозніваць суперэга, ці жаданне быць звышчалавекам (фарысейства ў негатыўным сэнсе). Самы просты спосаб адрозніць суперэга ад сумлення – гэта ўказаць на розніцу паміж “ты павінен” і “хачу” як імператыў нашых паводзін у пошуку і рэалізацыі праўды і дабра. “Ты павінен” – чыйсьці загад (суперэга), а жаданне “хачу” (голас сумлення) належыць самому чалавеку. Можна вылучыць наступныя адрозненні суперэга і сумлення (згодна з J.W. Glaser, Conscience and superego: A key distinction, *„Theological Studies”*, 32/1971, с. 38).

1. Матывацыя: суперэга загадвае выкананне пэўнага дзеяння дзеля атрымання адабрэння або з-за страху страціць прыязнасць. Увогуле справа ў дадзеным выпадку датычыць страху страціць прыхільнасць нейкага аўтарытэту ці ўлады. Сумленне ж адказвае на пытанне “Што правільна?” Гэта захоўвае дзейнічаць згодна з унутрана адобранай сістэмай каштоўнасцяў.

2.Суперэга характарызуецца замыканнем у сабе: суперэга паварочвае нас да саміх сябе – стаўленне, засяроджанае на нашым уласным пачуцці каштоўнасці. Сумленне ж характарызуецца экстравертнасцю: яно адкрытае і ўлічвае іншых і іх каштоўнасці.

3. Суперэга статычнае, таму што паўтарае ранейшы загад: усё зводзіцца да стэрэатыпных паводзін і эмацыйных рэакцый, устойлівых да любой крытычнай ацэнкі. Пры гэтым немагчыма вучыцца або быць творчым у новых абставінах. Сумленне дынамічнае: рызыкуе ва ўмовах непрадказальнага развіцця падзей, арыентуючыся на іерархію каштоўнасцяў.

4. Суперэга пераважна арыентавана на аўтарытэт: выконвае загад, характарызуецца сляпым падпарадкаваннем. Сумленне галоўным чынам арыентавана на каштоўнасці: яны з’яўляюцца галоўнымі незалежна ад таго, прызнаюцца яны ўладай (аўтарытэтам) ці не.

5. Суперэга звяртае ўвагу на дзеянні, якія выконваюцца індывідуальна. Сумленне падразумявае кантэкст і ўмовы: важнае агульнае стаўленне чалавека.

6. Суперэга арыентавана на мінулае: у асноўным гаворка ідзе пра аднаўленне “чыстага ліста”. Сумленне скіравана ў будучыню: “Якім чалавекам я хачу стаць?”

7. Суперэга патрабуе пакарання: такім чынам ачышчаецца ад учыненых злачынстваў, і ад сур’ёзнасці пакарання залежыць упэўненасць у здзейсненай кампенсацыі (т.зв. неўратычная віна). Сумленне бачыць у кампенсацыі за правіну новую магчымасць: клопат пра лепшую будучыню – гэта спосаб вучыцца нават на памылках (тут гаворка пра пакаянне).

Бог мае вялікую далікатнасць і, можна сказаць, надзвычайную павагу да свабоды, якую Ён даў чалавеку, таму не навязвае Сябе і не змагаецца за прызнанне, а таксама не крычыць, але “хто мае вушы, няхай слухае”. Так, напрыклад, перад абліччам частых пытанняў, а дакладней, сцвярджэнняў адносна цярпення, Бог не тлумачыць “чаму”, “за што”, але пасылае свайго Сына, Які бярэ свой крыж і ідзе. І вядуць Яго, як авечку на зарэз, і як ягня, якое маўчыць, калі яго стрыгуць, так Ён не адкрывае вуснаў (Дз 8,32; пар. Іс 53,7). Дзейнні і жыццё вечна жывога Езуса Хрыста становяцца сведчаннем і дыялогам Бога з чалавекам, які, адкрываючыся на гэта, знаходзіць сябе.

***Літаратура***


1. *J. Prusak SJ, Rozeznawać, by nauczyć się wsłuchiwania w sumienie, "Życie duchowe", 100/2019, s. 25-36.*

2. *Wł. Zatorski OSB, Duchowość lidera, Tyniec 2014.*

3. *Ioannes Paulus PP. II, Veritatis splendor (Veritatis splendor, Jan Paweł II | John Paul II (vatican.va)).*



***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі,*
*г. Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА

Дарагі сябра! Хутка распачнецца новы навучальны год, а разам з ім і катэхетычны. Спадзяемся, што ты заўсёды з вялікім задавальненнем наведваеш урокі рэлігіі, а таксама сумленна выконваеш хатнія заданні. Жадаем табе поспехаў і Божага благаслаўлення ў новым навучальным годзе!

Дзеці спяшаюцца на ўрокі рэлігіі. Дапамажы знайсці самы кароткі шлях.



На занятках рэлігіі дзеці прыпаміналі тое, што вывучалі раней. Дапамажы Пазнавайке ўспомніць назвы святых сакрамэнтаў і падпішы іх.




Існуе Божы наказ, які кажа нам пра адносіны з нашымі бацькамі. Ці памятаеш ты, як ён гучыць? Правер сябе, выканай наступнае заданне.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ш | О | к | й | а | р | а | М | а | ю. | ь |
| а | ы | у | л | к | П | Ш | ю | й | а | е |
| н | о | ь | к | я | й | т | у | а | в | з |
| у | м | ц | у | г | й | г | о | О | С | д |
| й | Б | а | С | в | а | ы | І | а | і | я |
| а | й | Д | н | ь | С | а | М | а | ц | Н |

Прачытай правільна, ідучы па стрэлках. Кожнае новае слова пачынаецца з вялікай літары.



АДКАЗ:

Ці ведаеш ты, хто лічыцца айцом ружанцовай малітвы?

Калі разгадаеш рэбус, даведаешся правільны адказ. Унізе выберы святога, які лічыцца айцом ружанца.




АДКАЗ:




## Памаліся перад навучаннем

Для таго каб добра вучыцца, кожны дзень маліся наступнымі словамі:

О Добры Божа, прасвятлі нас Духам Тваім Святым,
які дае розум і ўмацоўвае духоўныя сілы,
каб мы ўважліва спасцігалі
ўсе навукі і раслі Табе, Тварцу нашаму, на славу,
бацькам і настаўнікам нашым на радасць і ўцеху,
Касцёлу і Бацькаўшчыне на добра і славу!

1+1=2

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Арфеева***

# У Дзеркаўшчыне і Глыбокім прайшла VI Парафіяда дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі

**9 і 10 жніўня ў Віцебскай дыяцэзіі праходзіла VI Парафіяда дзяцей і моладзі. Тэмай было "Маці Божая, Якая развязвае вузлы людскога жыцця, маліся за нас!" Пасля двухгадовага перапынку ўдзел прынялі толькі пяць парафій: з Віцебска (парафія св. Антонія), Варапаева, Лынтупаў, Дзеркаўшчыны і Глыбокага.**

■ Марына Сінкевіч, *тэкст і фота*

Парафіяда – гэта фармацыя дзяцей і моладзі паводле трыяды: стадыён – тэатр – святыня. Пасля рэгістрацыі ўдзельнікаў урачыстае адкрыццё распачалося са святой Імшы, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, біскупскі вікарый для г. Магілёва і Магілёўскай вобласці Аляксандр Яшэўскі SDB. У сваім слове да моладзі біскуп пажадаў "кожнаму прыняць рашэнне: за кім хачу ісці ў сваім жыцці, каго сапраўды хачу слухаць перадусім і рупліва маліцца, каб выбар кожнага з нас, зроблены свядома і добраахвотна, быў трывалым".








Першы дзень спаборніцтваў і фармавання сапраўднай сям'і Божых дзяцей праходзіў у Дзеркаўшчыне. Там удзельнікі паказалі свае здольнасці ў намінацыях "Тэатр" і "Святыня". Таксама да моладзі з канферэнцыяй звярнуўся айцец Андрэй Агель SP са Шчучына, што прыбыў як назіральнік. Святар распавёў пра заснавальніка парафіяды – кс. Юзафа Ёнца.

Віцебскі ардынарый біскуп Алег Буткевіч на некалькі хвілін спецыяльна завітаў у Дзеркаўшчыну, каб прывітаць сваіх маладых дыяцэзіян, пажадаць Божых поспехаў у парафіядзе і ўдзяліць пастырскае бласлаўленне. Першы дзень завяршыўся адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту ў касцёле.

Другі дзень быў вельмі насычаны спартыўнымі спаборніцтвамі. Футбол, валейбол, пляжны валейбол, баскетбол, бег (60 м, 100 м і 400 м), скачкі ў даўжыню з месца і з разбегу, кіданне мяча, бадмінтон праходзілі на гарадскім стадыёне ў Глыбокім пад руплівым судзейскім вокам настаўнікаў і трэнераў мясцовай спартыўнай школы. На заканчэнне дня ў касцёле Святой Тройцы дзеці і моладзь дзякавалі Богу за гэты разам праведзены час на святой Імшы, пасля якой адбылося ўзнагароджванне пераможцаў.

Арганізатар парафіяды ў Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Валерый Орсік шчыра падзякаваў усім валанцёрам і аніматарам за ее падрыхтоўку, удзельнікам, якія адважыліся паказаць свае здольнасці і паспаборнічаць, апекунам, а таксама ўсім, хто матэрыяльным і духоўным чынам падтрымліваў правядзенне гэтага рэлігійна-культурна-спартыўнага мерапрыемства.

Па выніках спаборніцтваў прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам:

**1 месца – Глыбокае**
**2 месца – Віцебск (парафія св. Антонія)**
**3 месца – Дзеркаўшчына**

# Каляндар на верасень

**3 верасня – успамін св. Грыгорыя Вялікага, Папы і доктара Касцёла.**
**8 верасня – Свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.**
**9 верасня – успамін св. Пятра Клявэра, святара.**
**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**
**13 верасня – успамін св. Яна Златавуснага (Хрызастома), біскупа і доктара Касцёла.**
**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**
**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**
**16 верасня – успамін св. Карнэлія – Папы, і Кіпрыяна – біскупа, – мучанікаў.**
**17 верасня – успамін св. Робэрта Бэлярміна, біскупа і доктара Касцёла.**
**19 верасня – успамін св. Януарыя, біскупа і мучаніка.**
**20 верасня – успамін св. Андрэя Кім Тэгона, святара, і Паўла Чон Хасана і паплечнікаў – мучанікаў.**
**21 верасня – свята св. Мацвея, апостала і евангеліста.**
**23 верасня – успамін св. Піа з П'етрэльчыны, святара.**
**26 верасня – успамін св. Космы і Дам'яна, мучанікаў.**
**27 верасня – успамін св. Вінцэнта дэ Поля, святара.**
**28 верасня – успамін св. Вацлава, мучаніка.**
**29 верасня – свята святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафала.**
**30 верасня – успамін св. Гераніма, святара і доктара Касцёла.**



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9:**
1 – В; 2 – В; 3 – А; 4 – В; 5 – Б; 6 – А; 7 – А; 8 – Б; 9 – В; 10 – В


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4157

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 17.08.2022 г. у 20.25

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь